
Калядны вечар ➔3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714


Мастак з Бацютаў ➔8

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 04 (3220) Год LXIII | Беласток, 28 студзеня 2018 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

Навагоднія сустрэчы ў Комплексе школ з дадатковым навучаннем беларускай мове ў Гайнаўцы прайшлі 15 студзеня ў святочным навагоднім і заадно яшчэ калядным настроі. Бацькоўскі камітэт падтрымаў ініцыятыву школы, каб у святочны перыяд даць магчымасць здольным да музыкі белліцэістам і белгімназістам запрэзентавацца на сцэне перад вучнямі, іх бацькамі, сямейнікамі і настаўнікамі. Таленавітыя вучні спявалі калядкі на розных мовах, свецкія творы, igралі на музычных інструментах. У час сустрэчы па-акцёрску запрэзентаваўся сот найлепшых ліцэяў у Польшчы. У Падляшскім ваяводстве Гайнаўскі белліцэй заняў 9 месца і атрымаў званне сярэбраnай школы. Дырэктар Лукашук назваў таксама пяць белліцэістаў, якія нядаўна атрымалі стыпендыі маршалка Падляшскага ваяводства за мастацкія поспехі. Чатырох стыпендыятаў праяўляюць музычныя здольнасці і займальна запрэзентаваліся перад публікай. **Наталля Васько** і **Юліта Рушук** спявалі ў «Знічцы», **Анна Бляўўская** заспявала пад гітару, а **Яцак Дружба** зайграў на акардэоне. Стыпендыю падляшскага маршалка атрымаў таксама **Шыман Ручынскі** — аўтар фільманая назва белліцэя і белгімназіі ў Гайнаўцы. З як найлепшага боку стараліся пакязацца падчас спеву і ігры на музычных інструментах таксама іншыя белліцэісты і белгімназісты.

З калядкамі і свецкімі творамі займальна запрэзентаваўся школьны калектыў «Знічка», якога музычны кіраўнік **Бажэна Вінцонак** падабрала рэпертуар у адпаведнасці са святочным калядна-навагоднім перыядам.

— Я цяпер, у трэцім класе, атрымала дзве стыпендыі маршалка Падляшскага а ў другім класе заняла другое месца ў Алімпіядзе праваслаўных рэлігійных ведаў. Сёння вучні прэзентуюць мастацкія здольнасці. Я сама пішу па-беларуску вершы, заняла трэцяе месца ў конкурсе беларускай паэзіі і прозы «Дэбют». За мае вершы на беларускай мове я заняла першыя месцы ў першым і другім класе белліцэя ў конкурсе «Пазнай Беларусь», а ў трэцім класе заняла ў гэтым конкурсе трэцяе месца за герб «Пагоня», які вышыла крыжыкам. Прымала ўдзел у Сустрэчах «Зоркі», вучылася там журналісцкай працы. Пачала пісаць артыкулы ў «Ніву» і для сайта нашай

# Навагоднія сустрэчы ў Гайнаўскім белліцэі



калектыў «Знічка». Неспадзяванкай мерапрыемства стаў канцэрт славутага барда **Зміцера Вайцюшкевіча**.

— Арганізаванне «Навагодніх сустрэч» лічу ўдалай ініцыятывай, бо ў сённяшнім мерапрыемстве цікава выступілі вучні. Сярод публікі ёсць іх бацькі, настаўнікі, але таксама бабулі і дзядулі, прадстаўнікі трох пакаленняў. Нашу ініцыятыву падтрымаў і дапамог яе здзейсніць Бацькоўскі камітэт школы. Формула выступаў была адкрытай. Свае музычныя здольнасці вучні маглі праявіць у розных групах і з розным рэпертуарам — калядкамі і свецкімі песнямі, якія спяваюцца ў навагодні перыяд. Мы адкрылі новы сайт нашай школы, дзе перш за ўсё вучні змяшчаюць інфармацыю аб здарэннях у школе і поспехах вучняў. Частка матэрыялаў змяшчаецца на беларускай мове, — скажа дырэктар Гайнаўскага белліцэя **Ігар Лукашук** пасля канцэрта.

У пачатку спаткання дырэктар прывітаў сабраных у актавай зале і паінфармаваў пра нядаўна апублікаваны рэйтынг школ, які складае Адукацыйны фонд «Перспектывы». У ім Агульнаадукацыйны ліцэй з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы, беручы пад увагу поспехі белліцэістаў у мінулым школьным годзе на матуральных экзаменах і падметных алімпіядах, апынуўся ў ліку трох-



■ Зміцер Вайцюшкевіч

вых анімацый і дакументальных фільмаў. Належыць ён да школьнага калектыву «Фантастычныя фільмавыя фізікі» (у ім займаецца таксама стыпендыятка **Юліта Рушук**). **Шыман Ручынскі** разам з сябрамі зняў рэкламны фільм «Місія Беларус», які заахвочвае выпускнікоў паступаць у Комплекс школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы. Слова «Беларус» у загалоўку фільма гэта звычваяводства — за вучобу і за мастацкія поспехі. Стыпендыяткай была я таксама ў другім класе белліцэя — за поспехі ў першым класе. Каб атрымаць стыпендыю, трэба было мець высокую сярэднюю ацэнак на пасведчанні ў папярэднім школьным годзе і стаць лаўрэатам цэнтральнага этапу прадметнай алімпіяды. Я ў першым класе заняла другое месца ў Алімпіядзе па беларускай мове,

школы. Люблю я спяваць і з першага класа выступаю ў школьным калектыве «Знічка». Ужо каля года займаюся ў танцавальным калектыве пад кірункам **Вольгі Вілюк**, у якім вучымся беларускім народным танцам. Сёння я спявала са «Знічкай». Выступала я раней на «Пікніку з беларусам» і «Мастацкіх сустрэчах школьнікаў». Падчас «Беларускай гавэнды» я распавядала па-беларуску цікавыя здарэнні, дэкламавала на конкурсе «Сцэнічнае слова» (у папярэднім годзе заняла першае месца, як дэкламатарка і выступаючы ў калектыве «Драма», — А. М.). Я займалася ў тэатральным калектыве **Іаанны Стэльмашук-Троц**, які дзейнічае пры Гайнаўскім белмузеі, і надалей займаюся ў школьным тэатральным калектыве «Драма», якога апекуном з'яўляецца настаўнік беларускай мовы **Ян Карчэўскі**, — распавяла **Наталля Васько**.

**Юліта Рушук** у сваю чаргу выступае ў школьным калектыве «Знічка», у маладзёжным хоры Свята-Троіцкага сабора ў Гайнаўцы і з дзяцінства іграе на трубцы ў Духавым аркестры, які дзейнічае пры Дзяржаўнай пажарнай ахове ў Гайнаўцы. **Анна Бляўўская** заспявала пад гітару два творы — песню пра журналіста (якую выконвала падчас мінулагодняга фестывалю «Бардаўская восень») і калядку.

працяг ☞10





# Маскі і аблiччы

У свеце татальнага падману і ашуканства асабліва прыемна, калі палітыкі публічна здымаюць маскі і дэманструюць сваю сапраўдную сутнасць і непрыхаванае аблічча. У гэтым сэнсе парадаваў на мінулым тыдні сваімі „откровениями" нязменны кіраўнік Расейскай Федэрацыі. Цуда, канешне, не здарылася — сваёй віны ў гібелі, прыкладам, маракоў падлодкі „Курск", ці дзяцей чачэнскага Бяслана, ці ахвяр спектакля „Норд-Ост" на маскоўскай Дуброўцы, ці іншых злачынстваў Уладзімір Пуцін не прызнаў і ніколі не прызнае. За ўсё гэта ён адкажа хіба перад Вышэйшым судом, бо нават да Гаагскага трыбунала яму паплечнікі не дадуць дабрацца. Але вернемся да сімвалічных слоў Уладзіміра Уладзіміравіча, сказаных у інтэрв'ю для фільма „Валаам" і шырока паказаных на адным з дзяржаўных прапагандысцкіх тэлеканалаў. Не міргнуўшы вокам, ён з філасофскім апломбам заявіў, што цела Леніна ў маскоўскім маўзалеі можна параўнаць з мошчамі святых хрысціянскай царквы. Пры тым крамлёўскі ўладар не прамінўў, канешне, параўнаць ідэалогію камунізму з хрысціянскім вучэннем. Такое параўнанне было модным яшчэ на золку перабудовы, калі прадстаўнікі камуністычнай партыі апраўдвалі ім і злачынствы бальшавізму-камунізму, і сваё знаходжанне ў гэтай партыі.

„Шчырасці" Пуціна, канешне, заміло̆ўваюць, бо з гледзішча хрысціянскага вучэння ён сказаў відавочную ерась, у самым першым і галоўным значэнні гэтага слова. І сказана гэта было ў дзяржаве, дзе — паводле розных сацыялагічных даследаванняў — ад 70 да 75 адсоткаў насельніцтва залічае сябе да праваслаўнай канфесіі. Ну і што — скажаце вы — і будзеце мець рацыю. Заяўляў жа публічна з гэткай самай непасрэднасцю, яшчэ на пачатку свайго кіравання, такі ж нязменны на сваёй пасадзе Аляксандр Лукашэнка, пра тое, што ён „праваслаўны атэіст". І нічога — дагэтуль пераважная большыня праваслаўнага кліру, ды і значная частка каталіцкага, не кажучы ўжо пра звычайных прыхаджан, забяспечваюць яму сваю галосную ці негалосную электаральную падтрымку. А тое, што „па пладах" пазнаеце вы іх — хто разбіраецца з тымі кветкамі ды пладамі.

Некаторыя аналітыкі нават адзначылі, што такім выказваннем Пуцін напярэдадні сваіх чарговых перавыбараў здабывае сімпатыі часткі камуністычнага электарату. І, відаць, значная рацыя ў гэтым ёсць. А тым, хто хоць крыху мае клёпак у галаве, даўно зразумела — для кагэбэшніка праваслаўе — гэта проста шырма, не больш чым палітычнае прыкрыццё. Гэты палітык яшчэ на золку свайго кіравання на пытанне: „ці верыць ён у Бога" — наўпрост адказаў, што ён „верыць у чалавека". Так што кіраўнікі Расеі і Беларусі — выразныя атэісты альбо паслядоўнікі магізму (цела Леніна ў маўзалеі, шматлікія ідалы Ільіча на плошчах гарадоў — яскравая таму ілюстрацыя), але ніяк не праваслаўныя хрысціяне. Зрэшты, яны сябе такімі і не называюць. Тут аблічча якраз не хаваӗцца. І не адлюстроўваецца на папулярнасці, бо наша прастора, пра якую любяць пісаць народнікі як пра духоўную, сама насамрэч скрозь атэістычная.

А вось, прыкладам, у Нямеччыне палітыкі, якія называюць сябе хрысціянскімі дэмакратамі, проста заміло̆ўваюць. Зачароўваюць сваім абліччам нібы той старажытнарымскі паганскі бог Янус. Да людзей з выбарчымі праграмамі яны ідуць нібыта як хадзкі, а потым у Бундэстагу галасуюць за аборты, за ўзаконьванне аднаполых шлюбаў і таму падобнае. Нават іх лідар — таксама амаль нязменная на вяршыні ўлады фраў Меркель, заклікае галасаваць не па праграмных прынцыпах а „паводле сумлення". Такое вось раздваенне. То назваліся б нейк так як „Единая Россия" у іх даўніх сяброў і партнёраў — скажам „Allgemeine Deutschland" і не дурылі б галаву людзям. Але ж не — заданне сучаснага палітыка якраз не ўкараненне сваіх праграмных прынцыпаў і дэкларацый у жыццё, а ашуканства выбарцаў. Таму і з'яўляюцца на авансцэне такія стракатыя маскі і разнастайныя аблічы адных і тых жа асоб. „Што нам жыццё? — Гульня!" — як сказаў літаратурны класік. Толькі выглядае гэта ўсё часцей як у танным тэатры. І таму хочацца ўслед ужо за тэатральным класікам зрэагаваць натуральным: „Не веру!".

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Не хацець быць мурашкай

Гэта было ўчора (серада) у Варшаве. У самым яе цэнтры, па вуліцы Маршалкоўскай сярод белага дня збілі чалавека. Ні адзін з мінакоў не рэагаваў. Ні адзін. Ці таму, што ахвяра была апранутая ў чырвоную, кідкую куртку? Бо ж чаму ў такую, а не абы-якую шэра-бурую апрануху, якая хавае безасабовага чалавека ў вулічным натоўпе, дазваляе жыць у бяспечным мурашніку і выжыць, любой цаной?! Чырвоная куртка... Трэба яе патаптаць, здратаваць, выпацкаць у гразі, зацерці шэрым пылам...

Назавем такія паводзіны стратэгіяй мурашніка. Мурашнік, інстынктыўная дысцыпліна статка аднолькавых мурашак, няздзейсненая мара кожнага таталітарнага рэжыму. Савецкія мурашкі ў сталінскі час, камбоджыйскія ў час Пол Пота... Мільёны, дзясяткі мільёнаў людзей без мінулага і без будучыні. Гэта ўсяго толькі некалькі відных прыкладаў таго, што чалавек мала адрозніваецца ад першага з краю статка насякомых. Крыху, аднак, робіць розніцу. Хопіць чалавека выбраць метафарычным пінцэтам з натоўпу, а затым пакласці яго на прадметным шкле мікраскопа і павялічыць яго твар — спачатку ў сто разоў. Адзначым першае назіранне: аб'ект, здаецца, у жаху. Адзін, пазбаўлены падтрымкі падобных да сябе — ён ніхто. Або лепш: нішто. Ён такім сабе і здаецца. Бездапаможнае мясное валакно падвержанае жорсткай вівісекцыі. Без ідэнтычнасці. Без свайго сацыяльнага фону. Хто паляк без польскасці? Беларус без беларушчыны? А габрэй, а француз?.. Павялічваем яго ў тысячу разоў. Неўзабаве нашы вочы ўбачаць яго перакошаную гневам пысу. Персаналізаваная ўжо, у асабістым выразе, выкарыстоўваючая мову сваіх эмоцый. Калі б мы мелі слухаўку, узмацняючую чалавечы голас, я ўпэўнены, што звялі б нам вушы ад мату, якім пачаставаў бы нас назіраны аб'ект. Чалавек. Ужо не насякомае. Не мясное валакно. Але павялічым яго ў дзесяць тысяч разоў. Але не сапалохаймася таго, што ўбачым, таму што ўбачым саміх сябе. У сваіх сумневах і запале, недаглядах і страхах, магчымых і ўсё ж імператыўных для чалавечага віду ганарлівасці і фанабэрыстасці, але і альтруізме, мужнасці, а таксама баязлівасці, імкненнях, марах і, нарэшце, прысвоеных кожнаму з нас абмежаваннях і магчымасцях звязаных з генамі, выхаваннем, культурай. Мы такія, на першы погляд, схаваныя паміж такімі ж як мы, збітыя перад заслонамі супольнага фону; а на другі — вырываемся спаміж іх з усёй сваёй сілай. Хочам вылуцца хаця б чырвоным пінжаком, валасамі пафарбаванымі ў ружовы колер, майбахам замест фіата, залатой аплатнай картай ці нават гаршком, якога не купіць сусед, за пяць тысяч злотых.

У той фатальны дзень, а я пішу гэты тэкст у чацвер пад вечар, Кшыштаф Пячынскі, выдатны акцёр, і вельмі прыстойны чалавек, але кранаючы іншых сваёй мастацкай іншасцю, вырашыў апрануцца ў чырвоную куртку. Чаму не ў абы-якую шэра-бурую? Давайце пакінем гэтае пытанне ў разуменні алюзіі, бо хтосьці ўсміхаецца, каб бліснуць залатым зубам, а хтосьці не шкадуе сваёй маладой і прыгожай жонцы дарагіх футраў. Чырвоная куртка, як чырвоная ануча на раз'юшанага тэстастэронам быка, выклікала ў адным з мінакоў сапраўдную жывёльную лютасць. Кшыштаф Пячынскі апісаў гэта так: «Мужык, праходзячы міма мяне, закрычаў: «Ты, педзік!». Я рушыў услед за ім і спытаўся, чаму ён так мяне назваў. А ён працягваў «Ты, педзік, убек!». Плюнуў мне ў твар і пачаў штурхаць нагамі. Я пачаў абараняцца...». Акцёр, вядомы сваімі крытычнымі выказваннямі аб заганных паводзінах многіх каталіцкіх іерархаў у Польшчы і наогул цемрашальстве часткі царкоўных і палітычных партый, з асаблівым акцэнтам на злавесную палітычную дзейнасць ПіС, мяркуе, што стаў ахвярай распальванай імі нецярпімасці. Гэта згоднае з тым, што я сам назіраю. Ад сябе дадам, што таксама і я з'яўляюся ахвярай іхняй мурашніковай варожасці да непадобных да іх, цемрашальскай ксенафобіі і маніпулятыўнага папулізму. Усё роўна, ці паасобная мурашка думае, сумняваецца, ці шукае ісціну. Важна, каб трымала сваю пысу пад замком, а «рукі па швах». Кожная адна, значыць — усе. Аднак, што вынікае з разумовага эксперыменту аб простым пашырэнні — яны асобныя, непаўторныя. Дакладна так. Але невядома, ці кожная з іх аб гэтым ведае. Або ці жадае пра гэта ведаць. Справа ў жаданні. У чалавечым, індывідуальным жаданні. Пры яго адсутнасці суседка, што набыла гаршчок за 5 тысяч злотых, таксама будзе апляваная і аблаяна як педзік. Хоць яна суседка, а не сусед.

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Вечнае развітанне вёскі

Тыдзень назад пісаў я пра калядоўшчыцу-смерць, што не адпускае людзям нават у святочны перыяд. Няйначай адбылося і ў маёй роднай вёсцы, дзе жменька людзей страціла сваю пажылую аднавяскоўку. Аднак гісторыя яе адыходу не адбылася ў цішыні і спакою роднай хаты, але мела вымярэнне, пра якое загаварылі астатнія мясцовыя жыхары. У жанчыны здарыўся інсульт. Прыехаўшая хуткая дапамога неадкладна выклікала з Беластока санітарны верталёт, які неўзабаве прызямліўся на дарозе за маім канцом вёскі. Здаецца, такая сенсацыя як верталёт на дарозе — на канцы пушчанскага свету павінен прыцягнуць увагу і выклікаць зацікаўленасць мясцовых людзей. Звычайная цікавасць павінна была іх падштурхнуць да таго, каб падысці і пагледзець, што ж тут такое вырабляецца. Нічога падобнага не здарылася. Апрача апякункі хворай жанчыны ніхто не паспяшыў пагледзець, як не круці, на нязвычнае прызямленне верталёта. Менавіта перамагла тут насцярожанасць жыхароў памежнай зоны. Адны падумалі, што адбываюцца абучэнні памежнай варты, якая практыкуецца ў пошуках нелегальных уцекачоў праз зялёную мяжу. Мясцовым людзям проста не хочацца мець дачынення з мундзірнымі службамі, у дадатак напэўна ўзброенымі, якія зараз пачнуць ізноў выпытваць, ці не бачылі чужых, ці ездзяць падазроныя машыны і людзі і г.д. Праз сваю цікавасць можна толькі прыдбаць адны клопаты, таму лепей у такой сітуацыі не высоўваць носа з хаты. Другія падумалі, што гэта напэўна прыляцелі тыя ж імігранты і зараз пачнецца бяда ў выглядзе абшуквання хат і панадворкаў вайсковымі падраздзяленнямі. Трэція ўявілі, што адбываецца залёт кантрабанднага верталёта з папяросамі і гарэлкай, а на дарозе ідзе перагрузка ў загадзя дамоўленыя машыны. Кожны варыянт абазначаў проста клопаты для грамадскасці маёй вёскі з дзесяці чалавек. А нікому не прыйшла ў галаву думка, што верталёт з'явіўся проста, каб ратаваць чалавечае жыццё. Каму ж патрэбная ці важная бабуля з пушчанскай вёскі? Тое, што верталёты ратуюць людзей, бачылі яны толькі па тэлебачанні. А тут такое здарылася. Аднак верталётная акцыя не дапамагла выратаваць жыцця ў Беластоку і праз тры дні жыхарам сяла прыйшлося развітацца са сваёй аднавяскоўкай.

Пайсці развітацца і вывесці пакойніка гэта той маральны імператыў, які з'яўляецца генетычным кодам кожнай супольнасці. Аднак у выпадку старэйшых, хворых людзей з'яўляюцца перашкоды, якіх проста раней яны не ўяўлялі. У адных адняло ногі, так што ледзь прасоўваюцца па хаце пры дапамозе мыліц. У другіх такія хваробы, з-за якіх нельга пакінуць чалавека аднаго ў хаце хаця б на пяць хвілін, не кажучы, каб вывесці і апекавацца ім на двары зімовай парою. Трэція мелі прызначаныя візіты ў лекараў, каб яшчэ пазмагацца за свае жыццё. І на вывад, здавалася, не трапяць тыя, якія хацелі ў апошняй дарозе быць разам са сваёй вясковай пакойніцай. Але на шчасце з дапамогай паспяшылі іхнія сямейнікі. Вывад быў раніцай. Мой брат прыехаў пабыць з мамай, каб бацька мог пайсці і здзейсніць свой маральны абавязак. За тых, якія не ў змозе былі выйсці з хаты, прыехалі і пайшлі іхнія дзеці. Іншыя проста не паехалі да лекара. Такім чынам адвечная ўзаемадапамога ў апошніх хвілінах зямнога развітання яшчэ раз перамагла ўсе слабасці.

Але тая жменька людзей дакладна сабе ўсведамляе, што ўсё ж такі набліжаецца канец нашай вёскі з яе рэальнымі жыхарамі. Не гавару тут пра летніх прыезджых і польскіх уласнікаў дамоў, якія набылі ў апошнім часе ў нашай вёсцы. Хто наступны, а хто будзе апошнім з магікан, якога выведуць на вярстоцкія могількі? А хто яго праўдзе? Тыя пытанні адчувальныя ў позірках, тварах, вуснах маіх аднавяскоўцаў. Голасна пра іх не можна ўвесь час гаварыць, але рэальна трэба жыць з тым днямі і бяссоннымі начамі. А потым чакаць пахавальнай харугвы і чарговага развітання.

**Яўген ВАПА**



# Святочны вечар па-нашаму

Прэм’еры беларускіх танцаў, калядкі на розных мовах — так правялі святочную сустрэчу у сераду 17 студзеня дзеці з Пачатковай школы № 4 у Беластоку. Тут, як штогод, праходзіць урачысты калядны вечар, у якім прымаюць удзел шматпакаленныя сем’і. За падрыхтоўку мерапрыемства адказнай была настаўніца беларускай мовы **Аліна Ваўранюк**

— У мяне вельмі здольныя дзеці, гэта па-першае, — адзначыла арганізатарка. — А па-другое, усё можна знайсці ў інтэрнэце.

## Сцены і наша ахвота

Як вядома, дзякуючы намаганням бацькоў, якія хацелі, каб іх дзеці вывучалі беларускую мову, маем сёння між іншым навучанне ў школе № 4. Адным з яркіх арганізатараў навучання беларускай мове ў школе з’яўляецца Міраслаў Пякарскі.

— Мае дзеці ўжо даўно закончылі навуку ў гэтай школе. Яны — студэнткі, амаль што канчаюць навуку, — сказаў Міраслаў Пякарскі. — Быў я ад пачатку, калі ствaралася навучанне беларускай мове і з прыемнасцю гляджу, што ў школе новае і наколькі памяняліся ўмовы навукі. Хаця б строі дзяцей, хаця б уся тэхніка. Таго не было на пачатку! Першапачаткова былі сцены і наша ахвота, каб штосьці зрабіць.

Публіка — бацькі, бабулі і дзядулі, а таксама зоркі беларускай рок-сцэны аглядалі наймалодшых — герояў «Святочнага вечара».

— Прыемна, калі можна на дзяцей глядзець, проста паслухаць, — сказала Ілона Карпюк — маці Льва, які выступаў на сцэне. — Можна пасля павіншаваць з выступам. Вядома, што дзеці розныя, па-рознаму перажываюць, маюць розныя здольнасці. Тым болей важнае, каб як найбольш іх прымала ўдзел у такіх мерапрыемствах. А мы разам з імі.



## Найважнейшае паслухаць дзяцей

Тым, што дало штуршок для стварэння непаўторнай атмасферы «Святочнага вечара» былі самі вучні. Менавіта імі інспіравалася настаўніца беларускай мовы.

— Першую калядку на іспанскай мове знайшоў Олюсь Здрайкоўскі і яна яму вельмі спадабалася, — сказала настаўніца Аліна Ваўранюк. — Таму мы вырашылі зрабіць мерапрыемства. Найважнейшае — паслухаць дзяцей, улічыць тое, што ім падабаецца.

Вера ў сваіх вучняў адначасова матывуе іх саміх. Таму дзеці без непатрэбных хваляванняў выступалі перад дзясяткамі гледачоў.

— Пані Ваўранюк пабачыла, як я стараюся і папрасту мяне выбрала, — адзначыў Олесь Здрайкоўскі пасля выступу. — Вельмі люблю выступаць, гэта цікава і прыемна. Вельмі люблю іспанскую мову. Можа ў будучыні буду яе вывучаць.

— Вядома, дзеці маюць шмат заняткаў, не толькі ў школе, але і пазаўрочных. Усё-такі яны самі хочуць удзельнічаць у такога роду мерапрыемствах. Мы самі трохі спяваем у хаце. Мы песні вывучалі на майстар-класах, — сказала Кацярына Паўлоўская — маці Нікі і Віктара. — Магу сказаць, што песню, якую спявала Ніка, мой Вітэк пускаў для свайго настаўніка па перкусіі і ад яго навучыўся гэту песню граць. Я гэтым вельмі ганаруся!

## Тое, чаго яшчэ не было

Здаецца, што «Святочны вечар» у Пачатковай школе № 4 быў непрадказальным не толькі для ўдзельнікаў, але і саміх арганізатараў. Перш за ўсё адчуваліся спантаннасць і свабода. Усё ішло сваёй дарогай.

— Раблю тое, чаго ў нашай школе яшчэ не было, — адзначыла Аліна Ваўранюк.— Вывучыла я з дзецьмі калядкі розных народаў: беларуская, украінская, іспанская, габрэйская, літоўская, славацкая, англійская...

І менавіта галасістыя вучні праспявалі калядкі так, што прачыналіся нават апошнія рады слухачоў на гімнастычнай зале.

— Вядома, што напачатку ўсё робіцца ў асноўным для сваіх дзяцей, — сказаў Міраслаў Пякарскі. — Вядома, што пазней хочацца нешта зрабіць таксама для іншых. Я з прыемнасцю сяджу ў куточку, нідзе там далёка не іду.

Беларускі народны танец «Юрачка», дзіцячы беларускі танец «Дударыкі», ды бытавы «Вальс», які танцавалі на гарадскіх вечарынах — гэта ўсё прэм’ерныя выступы дзяцей з «чацвёркі», якія можна было паглядзець на вечарыне.

— Сёння былі новыя нумары, бо мы працуем над новай праграмай, — адзначыла настаўніца танца ў калектыве «Падляшскі вянок» Аксана Прус. — Хочам прымаць удзел у фестывалях, атрымліваем запрашэнні... Ёсць у нас творчыя планы!

## Не толькі сустрэцца на сур’ёзным узроўні

Фонам для дзіцячых выступаў быў таксама нядоўгі ролік, які можна было паглядзець на сцяне гімнастычнай залы. Мастак з пяску стварaў непаўторныя кадры, якія напэўна трапілі да дарослага гледача.

— Думаю, што для бацькоў вялікая прыемнасць, што можам не толькі сустрэцца на такім сур’ёзным узроўні, пагаварыць пра бацькоўскія справы, але таксама разам пагуляць, — сказала Ілона Карпюк. — І выступы, якія ладзім для дзяцей і для іншых бацькоў, гэта для нас вялікая прыемнасць, радасць. Гэта таксама момант рэляксу, які матывуе, але і вялікая прыемнасць.

Аказваецца, дзякуючы агульнаму паразуменню, на «Святочным вечары» ў Пачатковай школе № 4 кожны знайшоў нешта сабе.

— Я ўсё жыццё працую і з дзецьмі, і з дарослымі, мне цікава працаваць і з тымі, і з другімі, — сказала Аксана Прус. — Аднак дзеці больш адчуваюць тое, што хочаш ім перадаць. Таму, канешне, працаваць з дзецьмі цікавей.

Тэкст і фота **Улі ШУБЗДЫ**





## Драўляныя дамы

У вёсцы Плянта Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета ёсць больш дваццаці драўляных дамоў і некаторыя з іх з ганачкамі. Вока прыцягваюць прыгожыя дамы, між іншым, Лены і Мікалая Харкевічаў (побач іх дома стаіць драўляны бацькоўскі дом, перавезены з роднай вёскі спадарыні Лены, у якім размяшчаецца сямейны музей), Малгажаты Краўчык, Ярослава Мучко, Янкі і Марыі Янеляў, Станіслава Янеля, Валянціны Самойлік, Аляксандра Клімюка, Веры Клімюк, Уладзіміра і Зоі Клімюкоў (зараз іх дом пустуе), Бажэны Несцярук, Юрыя і Ніны Ляткоўскіх, Ніны Барэчка, Ніны Кот ды Марыі і Міхала Васько.

Гэтыя жыхары дбаюць пра свае дамы, рамантуюць іх, набіваюць шалёўкі, падшчытнікі, надаконнікі, падаконнікі і навугольнікі, малююць. Робяць усё, каб у хатах было прытульна і цёпла зімой. У некаторых з іх я быў у сярэдзіне і мне падабалася. Можа таму, што я таксама шмат гадоў жыву ў драўлянай з тоўстых сасновых бярвён бацькоўскай хаце. І яе свойскі клімат мне найлепш адпавядае. У ім цёпла і зімой. Не трэба многа паліць у печы.

Шмат гадоў таму свае хаты разбудавалі для двух сем'яў Валянціна Самойлік і Уладзімір Клімюк з жонкай Зояй. Яны да раней існуючых хат дабудавалі другую такую самую частку, спалучаючы абедзве ў адну. Гэтыя хаты маюць цікавую развязку, асабліва хата Валянціны Самойлік. Нідзе больш такой планіроўкі хаты як у спадарыні Валянціны я не сустрэў.

## Дарогу адрамантавалі...

У канцы мінулага года пісаў я на старонках „Нівы", што патрэбны рамонт раз'езджанага ўхабістага кавалка асфальтавай павятовай дарогі ў вёсцы Плянта Нараўчанскай гміны насупраць колішняга чыгуначнага вакзала ПКП Нараўка. 15 снежня 2017 года выступіў я з такім жа пастулатам на сесіі Гміннай рады ў Нараўцы. І зараз атрымаў адказ кіраўнічкі Праўлення павятовых дарог у Гайнаўцы інж. Крыстыны Мішчук і яго працытую, бо гэта важна:

„(...) ubytki w nawierzchni bitumicznej na przedmiotowym odcinku drogi powiatowej nr 1612 B zostały uzupełnione masą mineralno-asfaltową na zimno w dniu 19.12.2017 r."

У гэтым адказе адна хлусня. Як кажуць, папера ўсё вытрымае. Яшчэ да 12 студзеня 2018 года (калі якраз пішу гэтыя словы) ніхто гэтага адрэзка вышэйзгаданай дарогі не рамантаваў. Ніхто нават і пальцам не паварушыў. А ён стварае вялікую небяспеку ў дарожным руху. Кіраўнічка ПДП у Гайнаўцы ўводзіць карэспандэнта „Нівы" і заадно гміннага раднага ў Нараўцы ў зман. Варта дадаць, што такі сам адказ атрымаў таксама войт Нараўчанскай гміны Мікалай Павільч.

## Багаты вечар

13 студзеня гэтага года ў Гмінным асяродку культуры (ГАК) у Нараўцы Гайнаўскага павета арганізавалі канцэрт беларускага казачага ансамбля „Бацька атаман" з Мінска. У ім выступаюць прафесіянальныя спевакі, музыканты і танцоры

Было гэта яркае і запамінальнае культурна-забаўляльнае мерапрыемства, якое арганізавала дырэктар ГАК Галена Марыёля Рээнт на юліянскага сільвестра. Мінскі ансамбль сляваў песні, між іншым, „Ноч месячная", „Вішанька-чарэшанька", „Не для мяне прыйдзе вясна", „Распрагайце хлопцы коней", „Люба мне, когда Нёман разливается", „Чорны воран", „Каким ты был", „Гуляй казак", „Расставалася казачка". Панавала прыемная атмасфера. Пасля кожнай песні былі бурныя воплескі слухачоў.

Артысты-спевакі сплявалі вельмі прыгожа, а сярод іх вылучаліся салісты Уладзімір Куксянкоў і Кацярына Мядзведзева. Песень у іх выкананні слухаў бы і слухаў. Гледачы доўга не адпускалі замежных артыстаў са сцэны. Паслухаць канцэрт прыйшлі і прыехалі жыхары, між іншым, Нараўкі, Гушчэвіны, Новага Ляўкова, Лешукоў, Свінароў. Запоўнены былі уся кіназала і хол. На заканчэнне канцэрта нараўчане куплялі кружэлкі з запісам песень выдатнага беларускага калектыву „Бацька атаман"

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

# 2017 год у Арлянскай гміне

Хіба кожны з нас на свой лад падсумоўвае мінулы год і вяжа спадзяванні з чарговым. Вядома, што кожнаму чалавеку найважнейшае ягонае і яго блізкіх здароўе. Мне, як шматгадоваму раднаму Арлянскай гміны канец 2017 года з'яўляецца добрай нагодай для яго падсумавання, параўнання з мінулым, змен у жыцці.

На дзень 30 лістапада 2017 года ў Арлянскай гміне (у 26 мясцовасцях) пражывалі 2882 асобы, з чаго ў самой Орлі 894. Дзеля параўнання: на дзень 31 снежня 2016 года ў гміне пражывала 2917 асоб, з чаго ў самой Орлі 901 асоба. За амаль адзін год лік насельніцтва паменшаў на 35 асоб, з чаго ў самой Орлі на сем. І тут здарылася нешта новае — у папярэдніх гадах цягам аднаго года памірала ў два разы больш людзей, а гэта абазначае, што тых найстарэйшых людзей засталося ўжо вельмі мала. Адыходзяць галоўным чынам ураджэнцы 1920-х гадоў і малодшыя. Гэта таксама абазначае, так мяркую, што цягам нейкага перыяду паміраць будзе нямнога — пакуль малодшыя не пастарэюць. А пасля зноў, што вельмі сумнае, зноў пасыплюцца пахавіны. Такая чарговасць жыцця. І ўзнікне новая з'ява — лік насельніцтва значна паменшае, але, абсурдна, Арлянская гміна ў фінансавым вымярэнні, у пераліку на аднаго жыхара, стане яшчэ багацейшай. Што будзе з менш людными гмінамі — пакажа час. Арлянская гміна прымяркоўваецца (было некалькі сустрэч з раднымі суседняй гміны, ладзяцца супольныя фэсты) злучыцца ў будучыні з суседняй Чыжоўскай гмінай, падобнай у культурным і канфесійным плане.

**ГМІННЫ БЮДЖЭТ**

Бюджэт Арлянскай гміны на 2018 год будзе рэкордным, якога дагэтуль яшчэ не было. А менавіта плануюцца выдаткі на амаль 22 358 тысяч злотаў (пры звыш шаснаццаці мільёнах даходу), а з гэтага ліку амаль 11 640 тысяч пойдзе на інвестыцыі. На пагашэнне амаль шасцімільённага дэфіцыту прызначаюцца вольныя сродкі ў 200 тысяч, пераўшэнне за два з паловай мільёна ды доўгатэрміновы крэдыт у 3,2 мільёна злотаў.

Яшчэ адзінаццаць гадоў таму гмінны бюджэт заключаўся ў шасці мільёнах злотаў, а расходы на інвестыцыі сягалі толькі 950 тысяч. Годам пазней, у 2007 годзе, расход складаў 7 160 тысяч злотаў, прыход 5 860 тысяч, а на інвестыцыі прызначалася 2 535 тысяч злотаў.

Цяперашнюю сітуацыю ў гміне можна ацаніць і дацаніць, параўноўваючы яе з сітуацыяй у ранейшых скліканнях пры ранейшых войтах. І так:

— пад войтам Міхалам Іванчуком у 1999 годзе з бюджэту гміны (амаль 3 470 тысяч злотаў прыходу і за 3 800 тысяч расходу) на інвестыцыі прызначана няпоўныя 737 тысяч злотаў.

— пад войтам Янам Добашам у 2000 годзе з гміннага бюджэту (за 3 654 тысяч прыходу і за 3 513 злотаў расходу) на інвестыцыйныя задачы было прызначана ледзь 18 182 злоты.

**ІНВЕСТЫЦЫІ**

Зараз самакіраванне Арлянскай гміны прынцыпова кіруецца клопатам пра развіццё гміны, павышэннем жыццёвага стандарту насельніцтва пры адначасным захаванні фінансавай бяспекі і імкненнем да здабыцця еўрасаюзных сродкаў на рэалізацыю інвестыцыйных задач. У 2017 годзе найбольш інвестыцый было ў самой Орлі.

У маі 2017 года была падпісана дамова на пабудову Гміннага цэнтра культуры ў Орлі, а ў чэрвені пачалася пабудова двухпавярховага будынка з карыснай плошчай 957,14 кв. метраў, плошча забудовы 466,14 кв. метраў. Гэта вялікі будынак вартасцю за 5,5 мільёна злотаў, якога здаўна чакаюць жыхары, будзе візіткай гміны. Завяршэнне будаўнічых работ прадбачваецца на палову верасня 2018 года. У снежні 2017 года выконваўся дах. У будынку першы паверх зойме шматфункцыянальная канцэртная зала са сцэнай і глядзельняй, а на другім паверсе канферэнцыйная зала, бібліятэка, святліца і зала для рэпетыцый. Завяршаецца першы этап пабудовы, у 2018 годзе другі этап з планаваным коштам у 4 100 тысяч злотаў.



Будынак Гміннай управы пасля мадэрнізацыі

Восенню была выканана тэрмамадэрнізацыя будынка Гміннай управы. У рамках праекта пры выкарыстанні еўрасаюзных фондаў за 481 тысячу злотаў (увесь кошт інвестыцыі — амаль 740 тысяч зл.) былі выкананы новы дах, тэрмаізаляцыя і ўцяпленне сцен падвала, змадэрнізавана была кацельня і абагравальнае абсталяванне ды заменена аконная сталярка падвала ды першых двух паверхаў. Таксама была выканана абліцоўка будынка ды рамонт вонкавых прыступкаў і былі замацаваны фотавальтавыя панэлі. Пашыраны былі таксама ўваходныя прыступкі ў будынак ды змадэрнізаваны бакавыя.

Будынак Гміннай управы з новай абліцоўкай прэзентуецца дастойна, да таго ж устаноўлена літарную шыльду „Urząd Gminy", а над ёй размешчана вялікі герб Арлянскай гміны, які вечарам падсветлены знутры. Зараз поўнасцю выкарыстоўваецца першы паверх будынка, які яшчэ дзесяць гадоў таму займалі пошта і тэлекамунікацыйнае абсталяванне. Зараз там бельскі Кааператыўны банк (арандуе памяшканне), Гмінная водная суполка, Гмінны асяродак сацыяльнай дапамогі ды філія пошты, якой напалову зменшаны дасюлешні метраж.



Будова Гміннага цэнтра культуры ў Орлі

У 2017 годзе пачалася ў Орлі разбудова і перабудова ачышчальні сцёкаў (гэта другая вялікая інвестыцыя). Будуць пабудаваны новы ўмяшчальнік давазных сцёкаў ды павекта на асушаны асадак. Будзе рамантавана галоўная перапампоўня ды тэхналагічны і гаспадарчы будынкі. Паўстане фотавальтавая ўстаноўка, а ўчастак будзе абгароджаны. Кошт інвестыцыі складзе за 2 600 тысяч — усё з гміннага бюджэту. Завяршэнне работ прадбачваецца на канец чэрвеня 2018 года. Планаваныя кошты (II этап) — 1650 тысяч злотаў.

У вёсцы Спічкі будавалася новая святліца, у верасні быў закрыты так званы сыры стан; завяршэнне работ у чэрвені 2018 года, а задача, поўнасцю фінансаваная з гміннага бюджэту, будзе каштаваць амаль 450 тысяч злотаў; другі этап — 280 тысяч злотаў.

У вёсцы Рыгораўцы была перабудавана павятовая вуліца на адрэзку 760 метраў і ўезды на панадворкі (з бетонных бруской). Кошт інвестыцыі 900 тысяч злотаў, з чаго аж 675 тысяч фінансавала Арлянская гміна.

У Малінніках беластоцкае аддзяленне Генеральнай дырэкцыі краёвых дарог і аўтастрад пабудавала з аднаго боку тратуары з бетонаасфальту двухметровай шырыні на адрэзку 860 метраў коштам 525 тысяч злотаў.

У 2017 годзе коштам 64 тысяч злотаў была апрацавана тэхнічная дакументацыя на перабудову гідрафорняў у Орлі і Алекшах. Таксама было здабыта дафінансаванне вартасцю звыш 47 тысяч на пабудову гульнявых пляцовак з трэнажорнымі міні-ўстаноўкамі ў Малінніках, Міклашах і Вульцы-Выганоўскай. Агульны кошт праграмы ў трох мясцовасцях склаў 74 тысячы злотаў.

У Арлянскай гміне рэалізуецца чарговы праект «Будова фотавальтавай установкі і сонечных калектараў». Уладальнікі 98 гаспадарак атрымаюць дафінансаванне на гэтую інвестыцыю. Кошт праграмы амаль 1830 тысяч злотаў, у тым дафінансаванне — за 1141 тысячу злотаў і ўзносы жыхароў за 685 тысяч злотаў. У 2018 годзе гміна шляхам таргоў вылучыць выканаўцу, будзе весці інвестарскі нагляд ды падвядзе канчатковы прыём і разлік праграмы. Рэалізацыя ў 2018 годзе.

У 2018 годзе плануюцца таксама:

— перабудова гміннай дарогі ў Малінніках (калі будзе дафінансаванне); планаваны кошт 908 тысяч злотаў;

— у Пашкоўшчыне перабудова гміннай дарогі за 132 тысячы злотаў і перабудову павятовай дарогі за 1 мільён злотаў (узнос Арлянскай гміны 750 тысяч і ўзнос Бельскага павета 250 тысяч злотаў);

— у Крывятычах перабудова павятовай дарогі за 1600 тысяч злотаў (узнос Арлянскай гміны 1200 тысяч і ўзнос Бельскага павета 400 тысяч злотаў);

— купля катла для школьнай кухні за 20 тысяч злотаў;

— суфінансаванне пабудовы хатніх ачышчальняў сцёкаў, планаваны кошт 18 тысяч злотаў;

— датацыя для Бельскага павета на тэхнічную дакументацыю перабудовы дарогі ў Кошках — 25 тысяч злотаў.

Беластоцкае аддзяленне Генеральнай дырэкцыі краёвых дарог і аўтастрад плануе каштоўную інвестыцыю, якая часткова будзе рэалізавана на тэрыторыі Арлянскай гміны. Будзе гэта перабудова 37-кіламетровага адрэзка краёвай дарогі № 66 з Бельска-Падляшскага да дзяржаўнай мяжы ў Полаўцах разам з пеша-веласіпеднымі дарожкамі. Цэлая інвестыцыя мае каштаваць больш за 200 мільёнаў злотаў. Пачатак прац у 2018 годзе, завяршэнне ў 2021 годзе.

Тэкст і фота **Міхала МІНЦЭВІЧА**



❖Васіль САКОЎСКІ

# Распачаўся 2018 год

Кожны Новы год з'яўляецца важнай падзеяй як у жыцці кожнага чалавека, так і ў жыцці яго краіны. Вось таму перад кожным Новым годам і на пачатку яго паяўляюцца розныя прагнозы, прароцтвы на тэму гэтага, якім будзе наступаючы год і чым ён можа парадаваць нас ці засмуціць.

Перад намі 2018 год. Багаты і ён на розныя прагнозы і прароцтвы. І, на жаль, больш трывожныя яны, як добрыя, аптымістычныя. Вось некаторыя з іх:

Прарочаць яны клопаты для нашага Еўрасаюза, для яго валютнай сістэмы еўра, выхад з яго новых краін, што ў сваю чаргу прывядзе да гаспадарчага хаосу, збядненне саюзнага насельніцтва, масавых пратэстаў у многіх сталіцах, такіх як Рым, Мадрыд, Берлін, Парыж. Будуць расці ў сілу і актывізавацца крайнія правыя сілы. Еўрасаюзны крызіс адрыгнецца, адным словам, Еўропе і ўсяму свету... І гэта яшчэ не ўсе беды. Падобна маюць прачнуцца ісландскія вулканы і пакрыць сваёй таксічнай хмарай Нарвегію. І згарыць англійскі парламент. Мярзотнікі ж тэрарысты пачнуць прымяняць у сваіх тэрактах хімічную і біялагічную зброю. Будуць таксама спробы ўкрасці рымскага папу. І нейкім цудам мае знікнуць з палітычнай сцэны паўночнакарэйскі дыктатар...

Што я на гэта?.. Баюся, канешне. І пачынаю задумвацца, што можа і сапраўды нашы палітыкі маюць рацыю, калі крытыкуюць еўрасаюзнае кіраўніцтва, што не слухае нашых палітыкаў і іх разумных парад. Не слухае не толькі ў гаспадарчых і палітычных справах, у якіх яно мае можа і больш вопыт. Але не слухае ў рэлігійных, у якіх нашы з'яўляюцца проста экспертамі. Нашы такія моцныя ў гэтых справах, што могуць не паслухаць нават самога папы, напрыклад, у справе імігрантаў. І сапраўды, калі перад намі столькі розных бед і няшчасцяў, то адзіным разумным выхадам застаецца пост і малітва...

Яшчэ ў адной справе хачу вярнуцца да прыведзеных мною навагодніх прароцтваў, а менавіта да прагназаванага зніknення з палітычнай сцэны паўночнакарэйскага дыктатара, а можа і ўсёй дынастыі Кімаў. І гэта была б, канешне, вялікая змена ва ўсёй міжнароднай палітыцы і дыпламатыі. Але ці прынеслі б нейкую карысць чалавецтву такія змены, сказаць цяжка. З упэўненасцю сказаць можна толькі тое, што без Кіма міжнародная палітыка і дыпламатыя сталі б больш шэрымі, нуднымі, бо дасюль ніхто не ўмеў і не пасмеў так востра і артыстычна сварыцца з прэзідэнтам Трампам, як Кім. Кітайскае і расійскае кіраўніцтва так сварыцца з Трампам не ўмее, хоць часам і варта было б. Кіраўнікі еўрапейскіх дзяржаў не пасмеюць нават крыва глянуць на яго ад страху. Вось і змушаны быў Трамп, які без грубай лаянкі жыць не ўмее, шукаць сабе годнага праціўніка ў Палесціне, Іерусаліме. І напэўна знойдзе яго там. А гэта значыць, што ўвесь наступіўшы год будзе яшчэ весела ў міжнароднай палітыцы і дыпламатыі. І няхай сварацца, грызуцца на здароўе, абы толькі не ваявалі...

З такім багатым багажом панурых прароцтваў, аптымістычна распачалі мы дзве тысячы васямнаццаты год. Распачаўся ён, як і заўсёды, першага студзеня ноччу. Надвор'е было незімовае, бясснежнае, сырое, панурае. Тэмпература ва ўсёй нашай краіне плюсавая.

Сустракаў народ яго весела і дружна. Былі прамовы, шампанскае, феерверкі, песні і бясконцыя пажаданні ўсялякіх даброт, здароўя і шчасця. Каб збылася хаця б частка іх, то пажыў бы чалавек на шырокую нагу. Але наша жыццё гэта цвёрдая штука і хутка ўносіць у нашае жыццё, гаданні ды жаданні свае папраўкі і карэктывы. І супраць іх, як пагаворка кажа, *nawet komendant policji nic nie poradzi*. Вось і задае чалавек сам сабе адвечнае пытанне: якім жа гэты годзік сапраўды для мяне і для ўсіх нас будзе? А якім будзе, даведаемся толькі тады, калі перажывем яго.

А цяпер давайце прыглянемся, як на пачатку гэтага года выглядае наша краіна і бліжэйшае ды далейшае яе акружэнне.

У нашай краіне надалей праводзіцца і будзе праводзіцца шырокамаштабная перастройка нашай прававой сістэмы, нашага школьніцтва, нашай арміі і, канешне ж, усёй нашай гаспадаркі. Адначасова праводзіцца вострая люстрацыя не толькі былых і цяперашніх палітыкаў, дзяржаўных чыноўнікаў, але і нацыянальных герояў і знаных людзей. І якраз паводле савецка-камуністычнага прынцыпу «кто был ником, тот станет всем, и наоборот». Мяняецца таксама погляд на нашу гісторыю, дзяржаўныя прыярытэты, крытэрыі патрыятызму. Паглыбляюцца, на жаль, унутраныя канфлікты, канфлікты з Еўрасаюзам і нашымі суседзямі...

Беларуска-ўкраінскае памежжа надалей гніе і дыміць. А вінаватыя небяспечнага стану не толькі не разумеюць гэтага, а як бы наадварот. Значыць, і без прарокаў вядома, чым можа закончыцца гэты канфлікт...

Ну і найбольш запальнае месца ў свеце — Блізкі Усход. Ён заўсёды быў такім, ёсць такім і, здаецца, яшчэ доўга такім будзе, бо сілам зла і беззаконня карысная там нестабільнасць, хаос, вайна. Яны прыносяць гэтым сілам як палітычная, так і фінансавыя карысці. Калі пад канец мінулага года вялікімі намаганнямі і ахвярамі ўдалося нарэшце прыпыніць вайну ў Сірыі, то было вядома, што з новай сілай разгарыцца яна дзесьці ў Афганістане, Іраку ці іншым месцы, каб праз нейкі час ізноў вярнуцца ў Сірыю. І менавіта так прарочыць згаданае мною прароцтва. Наконт Сірыі ёсць у ім яшчэ згадка, што Расія нарэшце дагаворыцца са Злучанымі Штатамі Амерыкі падзяліць Сірыю на зоны сваіх уплываў. Вось якія перспектывы рысуюцца перад намі ў гэтым і наступным гадах...

Я зноў жа часта задаю сабе пытанне: чаму столькі бяды, гора, беззаконня столькі ўжо часу тварыцца на Блізкім Усходзе? Гэта ж святыя месцы, Святая Зямля. І даходжу да высновы, што менавіта таму і тварыцца ўсё гэтае беззаконне, што гэта Святая Зямля, бо святасць з'яўляецца соллю ў вачах цёмным, д'ябальскім сілам зла. І яны робяць усё, каб знішчыць усё светлае, святое. Значыць, дзе святасць — там з большай актыўнасцю і сілай лютуюць злыя сілы...

Усяго найлепшага Рэдакцыі «Нівы», ие чытачам і ўсім нашым аднамысніцам.

## Хуліганы не звяліся

Вёска Плянта Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета на першы погляд ціхая, спакойная. Але гэта толькі так здаецца таму, хто яе не ведае. Хуліганы былі тут здавён-даўна.

Раніцай 17 студзеня гэтага года ўбачыў я сарваныя афішы і плакаты з дзвюх дошак аб'яў. Каму яны перашкаджалі? Сярод аб'яў былі, між іншым, святочна-навагоднія пажаданні жыхарам Нараўчанскай гміны, у тым ліку і плянтаўцам. Усе іх вылупілі разам з кнопкамі.

Я добра помню, якое хуліганства было ў Плянце паўвека таму. На чыгуначным вакзале была святліца. У ёй адзін раз у тыдзень дэманстраваліся кінафільмы. Прыязджала тады аб'язное кіно (кінаперасоўка). Кінамеханік і фурман на балонавым возе прывозілі з сабой кінаапаратуру, кінаплёнкі і рухавік унутранага згарання, які круціў дынама, а тое давала электраток (былі тады тут яшчэ неэлектрыфікаваныя вёскі).

Плянтаўскі хуліган тады рабіў кінаперасоўшчыкам г.зв. скусы. Ён прабіваў камеры ў калёсах, распрагаў каня або глушыў рухавік. Бывала горш, калі перарэзваў электраправады. У зале адразу станавілася цёмна. Запальвалі тады фанар, які вазіў з сабою фурман. Выбягаў фурман з зала ў цемень ночы за хуліганам, а яго і след прастыў. Кінасеанс зрываўся. Усе ведалі хулігана ды пабойваліся яго зачапіць, абміналі здалёк. Па нейкім часе хулігана ўсё ж злавілі і пасадзілі ў турму. У наваколлі адразу паспакайнела. Але калі яго выпусцілі на свабоду, ён зноў рабіў шкоду, узломваўся ў прадуктовыя магазіны, краў і разбіваў матацыклы ды ровары. Ці рабіў гэта сам? Хадзілі чуткі, што існавала «шайка», якой ён быў правадыром.

## Што ў 2018 годзе?

Улады Гайнаўкі многа ўвагі прысвячаюць, між іншым, гарадскім вуліцам, аднаўленню іх маставых і тратуараў, а таксама вулічнага электраасвятлення. Сёлета запланавалі мадэрнізаваць маставыя вуліц паэтаў Каханоўскага, Тувіма і Міцкевіча ды Цэльнай, Цеснай, Пшанічнай і Ураджайнай, а таксама вуліцы Белавежскай на паўкіламетровым адрэзку ад вуліцы Пілсудскага да вуліцы Паркавай.

У гэтым годзе перабудуюць дажджавую каналізацыю на вуліцах Бярозавай і Грунвальдскай да рачулкі Леснай ды на вуліцы Рэя (І этап). Будзе пабудаваны новы фантан у гарадскім бярозавым парку (цяперашні невялікі фантанчык ліквідуюць). У плане да выканання сёлета ёсць таксама маніторынг горада. **(яц)**

# Засталіся адно ўспаміны (35)

Вёска Райкі, што ў Бельскай гміне, налічвае не больш чым трыццаць дамоў і належыць да салэцтва Казлы, солтысам якога цяпер з'яўляецца Васіль Купрыяновіч. З кінаперасоўкай у Райкі мы заязджалі ў шасцідзясятыя гады. Кінасеансы дэманстравалі ў мураванай святліцы, якая знаходзілася на пачатку сяла. Солтысам тады быў Уладзімір Лапацюк. Райкі — тыповая падляшская вёсачка з брукаванай вуліцай і невялічкімі драўлянымі хатамі, якую ў гутарковай мове чамусьці называюць Рэйпічамі. Гісторыю назвы паспрабаваў я высветліць у свайго прыяцеля Валіка Семенюка. У мінулым пісаў крыху ён у «Ніву», але чамусьці парваў кантакты. Апошнім разам мы з Валікам сустракаліся гадоў дзесяць таму. Ужо тады відаць было цывілізацыйны прагрэс у вёсцы. Вуліца пакрыта была асфальтавым насцілам. Задбаны былі ўжо гаспадарскія сядзібы. Калі я папытаў сябру, чаму сяло называюць Рэйпічамі, той не змог мне адказаць. Пра гісторыю вёскі Райкі можна даведацца ў інтэрнэце. Гэта адна з самых маладых вёсак Бельскай гміны — узнікла на зломе XVIII і XIX стст. У 1921 годзе налічвала дваццаць дамоў з 76 жыхарамі. Перад Другой сусветнай вайною лік дамоў пабольшаў да трыццаці. Сяло праваслаўнае. Паводле перапісу насельніцтва 24 чалавекі назвалі сябе беларусамі.



■ Валік Семянюк

Не памятаю, як часта мы заязджалі з кінаперасоўкай у Райкі. Валік Семянюк у тэлефоннай размове, якую мы правялі 18 студзеня, сказаў: «Памятаю як ты прыязджаў з кінаперасоўкай. Прысутнасць гледачоў была невялікая, таму што і сяло малое. Але я быў заўзятым кінаманам. Прыпамінаецца мне, што ў Райках мы сустракаліся з Толікам Дубам з Дубяжына, пакольkі мы сябравалі. Толік ажаніўся пазней з дзяўчынаю з Рэйпічаў, як казалі дубяжынцы». Зараз няма ўжо ў жывых, ані Толіка Дуба, ані яго жонкі. Адышлі ў краіну вечнага спачыну.

А з Валікам Семенюком мы па-даўнейшаму лічымся добрымі кампаньёнамі. Аказваецца, мы два сябры па нядолі — ён застаецца з хворымі нагамі, ды і ў мяне справа не лепш маецца. Але душою мы «маладзёны», хоць у мяне пад восемдзесят збіраецца, а прыяцель дзявяту дзясятку памяняў. Пры сустрэчы заўжды ўспамінаем сваю маладосць і мінулыя будні.

❖Уладзімір СІДАРУК

(фота аўтара)



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка

для дзяцей і моладзі




Фота Улі ШУБЗДЫ

# Урэшце зімовыя канікулы!

Усе чакаем зімовых канікулаў! Гэта час адпачынку і вясёлых гульняў. Многія паедуць на экскурсіі. Тыя, што астануцца ў хаце, таксама не думаюць сумаваць. Як не цікава — для нашых сяброў адпачынак гэта нагода, каб зрабіць штосьці карыснае для сябе і сваіх родных.

**МАЛЬВІНА, 13 ГОД:** — У гэты раз я дазволю сабе на маленькае шаленства. Кожны дзень, пасля заняткаў, буду хадзіць на гарадскі каток і катацца на каньках. А так, дзве-тры гадзіны ўдзень прысвячу англійскай мове. Летам паеду да сям'і ў Ірландыі, таму вельмі хачу падцягнуцца ў англійскай мове, каб самастойна хадзіць па горадзе і купляць усё ў магазінах.

**БАСЯ, 15 ГОД:** — Мая сям'я вядзе агратурыстычную кватэру, таму ў час зімовых канікулаў у нас будзе многа гасцей. Я хачу дапамагчы маме на кухні. Буду мыць пасуду і прыбіраць за гасцямі. Адпачываць не збіраюся, таму што навука мяне не стамляе. Падзараблю крыху грошай, якія прызначу на свае дробныя патрэбы. Моладзь у маім узросце, калі глядзець на амерыканскія фільмы, таксама ўжо працуе па выхадных і ў час канікулаў. Гэта такі здаровы стыль жыцця...

**ЯНАК, 14 ГОД:** — Мае бацькі ўвесь час адганяюць мяне ад камп'ютара і гульняў у смартфоне. Сапраўды, гэта крадзе час. Для мяне ўсё роўна — ці дзень, ці ноч, абы гульні былі цікавыя. Але апошнім часам я палюбіў мужчынскую работу! Тата навучыў мяне рубаць дровы для камінка. Пасля гэтага занятку я адчуваю вялікі прыток энергіі. На канікулах буду хадзіць на заняткі ў цэнтр культуры, дзе буду гуляць у шахматы і пазнаваць сакрэты кулінарнага свету. Найбольш люблю замясіць і спячы піцу з курацінай.

**ПАЎЛІНА: 12 ГОД:** — Прачытаю ўсе кніжкі, якія выйграла ў конкурсах «Зоркі». Хачу падцягнуцца ў беларускай мове, бо прымаю ўдзел у многіх беларускіх конкурсах і хачу паехаць на Сустрэчы «Зоркі». Калі на канікулах будзе многа снегу, буду катацца на санках і хадзіць на гарадскі каток пагуляць на каньках. Буду слухаць беларускую музыку па Радыё Рацыя і чытаць «Зорку».

**(Зорка)**




## Пэтсан сумуе — а мы спачуваем і смяемся!

*— У мяне кепскі настрой, хачу, каб мяне пакінулі ў спакоі, — прамовіў Пэтсан.*

*Коцік Фіндус паглядзеў на яго. Ён ніколі яшчэ не бачыў свайго Пэтсана такім разлаваным. Трэба штосьці прыдумаць, каб яго развесяліць.*

*— Можа сходзім на рыбалку? — прапанаваў Фіндус. — Табе стане весялей...*

Аднак Пэтсан не хоча ісці на рыбалку. На двары холадна і мокра, да таго ж яму трэба насекчы дроў і перакапаць агарод. Але Фіндус ведае, як узняць Пэтсану настрой. Фіндус жа зусім звычайны коцік...

Так, гэты коцік здольны перамяніць самы безнадзейны, цяжкі сум і неахвоту. Спачатку чытач вельмі перажывае за Пэтсана. Спачувае яму. Так як Фіндус, думае як згасіць боль душы галоўнага героя. З кожнай старонкай, аднак, пачуцці мяняюцца. Вынаходлівасць і фокусы Фіндуса выклікаюць не толькі ўсмешку — гэта жывы працэс перамены настрою, які дзейнічае не толькі на галоўнага героя, але і на нас саміх.

У рэшце рэшт, калі коціку ўдаецца развесяліць гаспадара, чытач сам надзвычай шчаслівы і акрылены. Ён разумее нешта больш, чым апавядае просты змест...

Мова пра чарговую, цудоўную кнігу Свэна Нурдквіста «Пэтсан сумуе», якая пад канец 2017 года выйшла ў кніжнай серыі для дзяцей і падлеткаў «Каляровы ровар». Пераклад шэдэўра дзіцячай літаратуры са шведскай мовы на беларускую належыць Надзеі Кандрусевіч. Апрача кранальнага, сакавітага зместу вас захопяць жывыя малюнкі Свэна Нурдквіста. Мы ўжо пісалі, што аўтар спачатку праславіўся як таленавіты ілюстратар кніг. Кожны, хто любіць маляваць, павінен зірнуць на рысункі. У іх каларыт і асобная гісторыя, пра якую прыемна думаць і ад якой хочацца нешта зрабіць прыгожае і карыснае...

Кніжку Свэна Нурдквіста «Пэтсан сумуе» можна выйграць у конкурсах «Зоркі».

**(гак)**

Мальвіна БАНАСЮК
ПШ у Міхалове

### Мой сон

Я на лугу...
Гэтак цёпла тут...
Але чую,
мамка да мяне гаворыць,
Пара ўставаць,
Час у школу.
Яшчэ пяць хвілін.
Я сплю.
Сон мяне ўцягвае зноў.
Але пара ўставаць...
Гэтак мамка гаварыла!

### Як пасябраваць?

Даўным-даўно былі сонца і месяц.
Яны хацелі разам гуляць,
Яны хацелі разам спяваць.
Яны хацелі разам уставаць.
Але ў асобных пакоях яны жылі...
Але ж інакш свету прыглядаліся...

### Віка і Мад

Мяне завуць Мальвіна,
Але гавораць «Мад».
У мяне сяброўка Віка.
Мы кахаемся ўсё ж.
Усё лета гулялі мы басанож.
Цяпер я сама ў школе.
Цяпер яна сама ў іншай школе...
Але калі б мы былі сёстрамі,
Дык разам пайшлі б у новую школу.

# Самі зрабілі зорку!

«Што гэта за свята без калядавання», — падумала я.

І, каб не загінула традыцыя, разам з сяброўкай Паўлінай Ёдлай рашылі мы пайсці калядаваць. На жаль, не было ў нас зоркі. Самі яе зрабілі! Атрымалася — як атрымалася, але ніхто не папракнуў.

Паехалі мы ў вёскі: у Курашава і ў Катлы.

На вёсцы відаць свята.

Але я пытаю: чаму так мала каляднікаў?!

Ці наша традыцыя загіне?

Ці можам на гэта дазволіць?

Людзі вельмі сардэчна нас прымалі і запрашалі прыйсці на другі год.

**Вікторыя Гаць, бельская «тройка»**

Удзельнікі конкурсу «Беларуская дыктоўка» з Нарвы

(Байкі сярэднявечнай Арменіі)

## Верабейчык

Цар Саламон захварэў.

І ўсе звяры наведалі яго, не з'явіўся адзін верабейчык. Ён зухавата ўзмахнуў крыльцамі і заявіў:

— А што мне ваш Саламон? Я сам сабе пан!

Пасля нейкага часу ён скарыўся і папрасіў прабачэння.

Цар Саламон спытаў у яго:

— Ты сказаў, што не падпарадкоўваешся маёй уладзе. Гэта праўда?

Наш верабейчык шчыра зачырыкаў у адказ:

— Я так сказаў, бо ведаў, што ты мудры і мяне зразумееш. Тады, як прыйшлі ад цябе пасланцы, я заляцаўся да адной самкі. Мне няёмка было б пры яе баку паказацца тваім пакорным слугам. Жанчыны не любяць слабых кавалераў!

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

Артур Вольскі

* * *

Сонца ў студзені дурэе —
Толькі свеціць,
Ды не грэе.
Снег блішчыць,
Аж вочы слепіць.
Снежных баб
Ніхто не лепіць.
А мароз сухі і колкі.
Точыць тонкія іголкі.
Падыходзіць —
Бокам, бокам.
А не ўгледзіш
Простым вокам.
Зробіш
Тры-чатыры крокі,
Пабялеюць нос і
шчокі.
І пад сонцам —
Дзіўна як! —
Ператворышся ў лядак!
І за дзверы,
І — далей!
Вось як дзіўна:
Сонца знікла,
А зрабілася цяплей!

## УВАГА КОНКУРС! № 04-18

**Моўчкі ідзе,**
**Моўчкі ўпадзе,**
**Моўчкі ляжыць,**
**А памрэ — пабяжыць.**
**С...**

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 4 лютага 2018 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

### Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 53: лядзяш.**

**Узнагароды, аўдыёбукі «Мініяцюры» Сакрата Яновіча, выйгралі Марта Белаказовіч, Вікторыя Гаць з Бельска-Падляшскага, Карнэлія Вшэбароўская з Нарвы, Юстына Астапковіч з ПШ № 1 у Гайнаўцы. Віншуем!**

## Польска-беларуская крыжаванка № 04-18

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 53-17:**

Карп, трус, Ярак, прыгода, Ян, рынак, на, доза, аматар, Іда, паратунак. Код, проза, прыз, пярына, Рыга, сарока, код, мін, дарада, ржа, так, яна, сцэнарый.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Марцін Галёнка** з Нарвы, **Марыя Сідарчук, Юльяна Высоцкая, Раксана Бэрэзняк-Леанюк** з Бельска-Падляшскага, **Марыюш Радзецкі** з ПШ № 1 у Гайнаўцы, **Мацей Кендысь** ПШ № 3 у Гайнаўцы, **Войцей Банцарэвіч** з Міхалова, **Куба Анішчук, Караліна Кандрат** з Нараўкі, **Вікторыя Бароўская** з Арэшкава. Віншуем!

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Rosa / Litkup | | | Era / Re | Jak / Spacer | | | Garnek żeliwny | | | |
| | | | | | Peruka | Rało | | Konto | Mag / Rok | |
| | | | Osa / Koza | | | | | | Tak | |
| | | Korowód | | | | | | | | Konar |
| | Pocałunek / Muzyk | | | | | | | | | |
| Kokarda / Mag | | | | | | | | | Lęk | |
| | Ukrop | | | | Arak | Jał | Hallo! / Wio | | | |
| | Łamigłówka | Pępek | | | Jan | | | Jan | | |
| | | | | | | | | | | |

РОДАМ З БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

**Шмат гадоў мастак працаваў над серыяй барэльефаў дзеячаў Беларускай Народнай Рэспублікі. І такая серыя работ (кераміка, гліна, вашчэнне) атрымалася. Мастак стварыў вобразы Антона Аўсяніка, Палуты Бадуновай, Язэпа Варонкі, Тамаша Грыба, Пятра Крачэўскага, Аркадзя Смоліча, Браніслава Тарашкевіча, Макара Краўцова, Язэпа Лёсіка і іншых дзеячаў БНР. Серыю барэльефаў Мікалай Несцярэўскі прысвяціў 100-годдзю Беларускай Народнай Рэспублікі. І гэтыя партрэты таксама надрукаваныя ў альбоме.**

# У Мінску выйшаў альбом мастака з Бацютаў

Беларускаму мастаку, сябру Саюза мастакоў Беларусі **Мікалаю Несцярэўскаму** сёлета ў канцы сакавіка споўніцца 87 гадоў. Але нягледзячы на такі паважаны ўзрост, спадар Несцярэўскі адпачываць не збіраецца. І свой першы альбом твораў ён так і назваў „Я яшчэ не ўсё зрабіў…”. Прыгожы і змястоўны, унікальны і шыкоўны альбом мастака напрыканцы 2017 года пабачыў свет у Мінску.

Мікалай Несцярэўскі родам з вёскі Бацюты, якія знаходзяцца непадалёк ад Беластока. Усё жыццё беларус прыгадвае свае родныя і дарагія Бацюты, дзе ў яго бацькоў было 24 гектары зямлі, з іх 18 гектараў ворнай, пад збожжа, а астатнія — сенажаць, паша і невялікі кавалак лесу. Да 1939 года ў Бацютах налічвалася каля 80 хат. Недалёка знаходзяцца вёскі Завады, Зачарляны, Трыпуці, Бацечкі, Тапілец і іншыя. А побач працякае рэчка Нарва. Пра родныя мясціны ніколі мастак не забывае. І маленькая айчына шчыра прысутнічае ў яго альбоме. На старонках 116-117 шмат фотаздымкаў беларусаў-перасяленцаў з Беласточчыны, якія не па ўласным лёсе апынуліся на Дзятлаўшчыне ў 1946-1947 гадах. Дарэчы, у фондах Навагрудскага занальнага дзяржаўнага архіва мне ўдалося выявіць дзясяткі розных дакументаў, звязаных з беларусамі Беласточчыны, якія прыехалі ў тыя гады на Дзятлаўшчыну. Усе гэтыя дакументы знаходзяцца ў фондах 663, Р-34. Сярод дакументаў праходзіць і прозвішча маці Мікалая Несцярэўскага — Шэйноўскай Анастасіі Лявонцьеўны.



■ Аўтапартрэт Мікалая Несцярэўскага




У спісе жывапісных твораў мастака ў альбоме змешчана карціна „Царква св. Мікалая ў вёсцы Тапілец”. Прыцягвае ўвагу і партрэт беларускага самадзейнага разьбяра па дрэве Уладзіміра Мацюка, які родам быў з Беластока, але жыў у Дзятлаве. Надрукаваны ў альбоме і партрэт беларускага паэта Віктара Шымука, маці якога Ганна Валасовіч была родам з Беласточчыны. Яна нарадзілася ў 1896 годзе ў вёсцы Арэхавічы на Бельшчыне. Сярод твораў керамікі мастака таксама ёсць знакамітыя беларусы з Беласточчыны — гэта Язэп Варонка (1891-1952), родам з Кузніцы, Яўген Хлябцэвіч, Зоська Верас і іншыя. Пра іх шмат разоў пісала „Ніва” на сваіх старонках.

Альбом „Я яшчэ не ўсё зрабіў...” пачынаецца прадмовай мастацтвазнаўцы Людмілы Ладзянай. Аўтарка адзначае, што Мікалай Несцярэўскі — майстар вялікага творчага дыяпазону. І гэта сапраўды так. Гартаючы альбом мастака бачна, што ён сапраўды майстар на ўсе рукі. У раздзеле „Дэкаратыўныя пласты” на суд чытачоў выстаўлены рознае пано, асабліва прыцягвае ўвагу пано „Дажынкі” (1984 год), пано „Каваль”, „Мастак”, „Муза”, „Будаўнік”, „Жняя”, „Сейбіт” і г.д. Апублікаваны і фрагмент пано з афармлення станцыі метро „Плошча Якуба Коласа” ў Мінску. Пісьменніца Святлана Белая адзначае, што мастаку „шмат давялося тут папрацаваць. Пры сушцы пластоў з'явіліся мікраскапічныя трэшчыны. Пры абпальванні пліткі наогул трэскаліся, і ўсё ж мастак дамогся свайго. Рабіў сушку рознымі спосабамі. І, нарэшце, знайшоў адзіны варыянт”.

У раздзеле альбома „Дэкаратыўная скульптура” паказаны фотаздымкі дэкаратыўных скульптур мастака, выкананыя на ганчарным крузе. Аказалася, што ў Беларусі толькі Мікалай Несцярэўскі стварае скульптуры ганчарным спосабам. Журналіст Мікалай Лавіцкі адзначыў, што Мікалай Несцярэўскі адзін працуе з шамотнай масай і ў асяродку мастакоў яго называюць „Паганіні”. Скульптуры мастака з выробленых на ганчарным крузе дэталяў выклікаюць незабыўнае ўражанне. Гэта — „Поры года”, „Птушкі”, „Зубры” і іншыя. Захапляюць вельмі і падлогавыя вазы, выкананыя на ганчарным крузе. Гэтыя творы Мікалая Несцярэўскага можна назваць шэдэўрамі.

Вельмі арыгінальным і прыгожым атрымліваецца ў мастака посуд. Тут і дэкаратыўныя талеркі, і кубкі, і вазы для ікебаны, і дэкаратыўныя скульптуры, выкананыя да выставы „Кружка і падушка”, і многія іншыя.





■ Царква св. Мікалая ў вёсцы Тапілец

Шмат гадоў мастак з Бацютаў працуе над бюстамі, партрэтамі, медалямі вялікіх асоб Беларусі. З керамікі ім створаны Францыск Скарына (бюст і пласт, шамот), Кастусь Каліноўскі (таніраваная кераміка), Адам Багдановіч (таніраваная кераміка), Міндоўг, полацкая князёўна Рагнеда, вялікі князь Гедымін, аўтапартрэт, бюст маці, розныя жаночыя і мужчынскія партрэты.

Прыгожа мастак малюе алоўкам. У альбом увайшлі яго эскізы для керамічных работ. Найбольш тыя, якія былі намаляваныя ў 1988-1998 гады. У эскізах Мікалая Несцярэўскага адлюстраваны беларускія матывы і вобразы. У кожным творы мастака прысутнічае яго ўласная асаблівая рыса, каб адразу было бачна, што гэта зрабіў менавіта мастак Несцярэўскі, а не хто іншы.

Апублікавана ў альбоме мастака і серыя барэльефаў дзяржаўных дзеячаў старажытнай Беларусі і Вялікага Княства Літоўскага, дзеячаў нацыянальнага адраджэння, дзеячаў сучаснай Беларусі (кераміка, гліна, вашчэнне). Мастак Алесь Зіненка адзначае, што „мастацтвазнаўцы некалі зробяць дакладны аналіз такой тытанічнай працы Мікалая Несцярэўскага, але сёння зразумела, што гэта значны ўклад у пластычнае адлюстраванне гісторыі Беларусі”. Барэльефаў мастак зрабіў шмат. Цудоўныя барэльефы. А якіх вялікіх асоб адлюстраваў у сваіх працах мастак — гэта полацкі князь Рагвалод, княжна полацкая Рагнеда, Ізяслаў, Брачыслаў, Усяслаў Чарадзей, Міндоўг, Войшалк, Трайдзень, Альгерд, Ягайла, Кейстут, Вітаўт, Гедымін, Свідрыгайла, Сапега, Ян Казімір Ваза, Станіслаў Аўгуст Панятоўскі і г.д. Заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Яўген Шыбнёў у альбоме адзначае: „Калі ў савецкі час мы за сваю працу атрымлівалі пэўны заробак, то ў нялёгкі наш час Мікалай Лаўрэнцьевіч Несцярэўскі бескарыслівa аддае ўсе сілы і талент для ўвекавечання памяці гістарычных персанажаў Вялікага Княства Літоўскага і дзеячаў культуры нашага часу”.

Шмат гадоў мастак працаваў над серыяй барэльефаў дзеячаў Беларускай Народнай Рэспублікі. І такая серыя работ (кераміка, гліна, вашчэнне) атрымалася. Мастак стварыў вобразы Антона Аўсяніка, Палуты Бадуновай, Язэпа Варонкі, Тамаша Грыба, Пятра Крачэўскага, Аркадзя Смоліча, Браніслава Тарашкевіча, Макара Краўцова, Язэпа Лёсіка і іншых дзеячаў БНР. Серыю барэльефаў Мікалай Несцярэўскі прысвяціў 100-годдзю Беларускай Народнай Рэспублікі. І гэтыя партрэты таксама надрукаваныя ў альбоме.

Стварыў мастак з Бацютаў і серыю медалёў і медальёнаў. У альбоме апублікаваны фотарэпрадукцыі медалёў, прысвечаных Кастусю Каліноўскаму, Адаму Багдановічу, Уладзіславу Галубку, аўтарскія юбілейныя медалі, медалі са знакамі задыяка, медаль з гербам „Пагоня” і іншыя.

У альбоме мастак знаёміць чытачоў і са сваім жывапісам (алей). Жывапісныя карціны мастака здзіўляюць сваёй разнастайнасцю і талентам. Адразу пазнаю на карцінах партрэты Казіміра Льва Сапегі, Станіслава Солтана, беларускага гісторыка Анатоля Валахановіча, паэта Віктара Шымука, заснавальніка Дзятлаўскага музея Міхася Петрыкевіча, паэта, выдаўца, грамадскага дзеяча ў Канадзе Сяргея Хмару, які родам быў з Дзятлаўшчыны, паэта Петруся Граніта, палітычнага дзеяча Мечыслава Грыба, празаіка Вячаслава Адамчыка, рэпрэсаванага палітыка і літаратара Ігната Дварчаніна, беларускага фізіка Віктара Анішчыка, даследчыка беларускай літаратуры Вячаслава Чамярыцкага — усіх і не пералічыць. Толькі ў Дзятлаўскім гісторыка-краязнаўчым музеі налічваецца звыш 300 работ Мікалая Несцярэўскага.

Шмат старонак у альбоме „Я яшчэ не ўсё зрабіў...” адведзена жывапісным краявідам (алей) Мікалая Несцярэўскага. Свае ўражанні ад прыгажосці роднай прыроды мастак любіць адлюстроўваць у сваіх творах. Усё гэта сведчыць пра вялікую любоў мастака і да Беласточчыны, і да Дзятлаўшчыны. Сам творца прызнаецца: „Асабліва люблю маляваць начныя пейзажы, у іх ёсць нешта асаблівае, таямнічае, што яшчэ больш прыцягвае ўвагу”.

Не застаюцца па-за ўвагай мастака і нацюрморты. Галоўны захавальнік фондаў Дзятлаўскага музея Ірына Якачык піша: „Любіць Мікалай Лаўрэнцьевіч маляваць нацюрморты... Кожны прадмет на карціне мастака жыве сваім жыццём: ціхім, нерухомым, незаўважным, але часта вельмі прыгожым і паэтычным. Мы проста любуемся яго нацюрмортамі”.

Працаваў мастак і над афармленнем вітражоў, над помнікамі і шмат-шмат яшчэ над чым. Талент у Мікалая Несцярэўскага — вялікі і неабмежаваны, шырокі і шчыры. У яго шмат сваякоў, сяброў, проста знаёмых людзей, якіх ён любіць і паважае, а мы ўсе вельмі ганарымся ім і жадаем Мікалаю Лаўрэнцьевічу здароўя і творчых сіл, каб ён яшчэ змог дарабіць тое, чаго ў сваім жыцці не паспеў.

Сяргей ЧЫГРЫН

❖Міра ЛУКША

# Веснавыя мроі Сані


Фота Міры ЛУКШЫ

«Гарачыя прывітанні Марыі Рысь з Беластока, што летась летуе пад Белавежскай пушчай, перадае гарачы прыхільнік яе асобы і талентаў Аляксандр Крывель. Кахаю цябе, Манечка, больш за ўсё ў свеце. Будзем разам!» Гарачыя прывітанні гучалі ў кожную суботу ў папулярнай трансгранічнай перадачы «Падляшскі канцэрт пажаданняў». Урэшце вядучыя канцэрт сталі абмінаць гэтыя эсэмэс-паведамленні і нават спыняць размову па тэлефоне, што выклікала зразумелае крыўдаванне і злосць пана Крывеля. «Я ж плачу за эсэмэскі і за тэлефон! Усе звоняць, пішуць, а вы не хочаце перадаць вестачкі для майго жыццёвага кахання! Маня Рысь — сэнс майго жыцця! Я мушу выправіць сваю жыццёвую памылку!» Вядучая ведала Марыю Рысь, вядомую таксама многім слухачам не толькі з яе тэлефанаванняў у радыё. Удаву, сямідзесяцігадовую пенсіянерку, былую сялянку, рабочую, вельмі добрага, сумленнага і прыстойнага чалавека, захопленага культурай. Прызнанні ў любові яе былога нарачонага яе зневажалі і прычынялі боль, бо выказваў іх мужчына пры сваёй жывой жонцы. Раздабыўшы нумар мабільніка спадарыні Рысь, стаў ён званіць ёй і прапанаваць, каб зноў супольна пачаць новае жыццё. Быў шчыры аж да болю: «Мая жонка хворая ракам. Неўзабаве памрэ. А тады мы пажэнімся. Адробім страчаны час. Я яе ніколі не кахаў. Жыў з ёю. Глядзеў на яе, ды ўсё бачыў цябе. Маня, ты мяне пачакай. Неўзабаве будзем разам. І я ўжо на пенсіі. Найлепш будзе, як прыеду да цябе ў Беласток. Чакай мяне!..»

«Скрыпачка йграе, аж прамаўляе, дзе той мой Санечка — з іншай гуляе!» — падспявалі Мані сяброўкі з пушчанскай вёсачкі, калі ейны кавалер Аляксандр, з падляшскага сяла, рашыў ажаніцца з Валюняй, што вярнулася са студыяў у Варшаве як аграном. Хоць Валя старэйшая на чатыры гады ды не такая гожая, высокая, стройная як Маня, але ж ад багатых бацькоў, і было не было — вучоная. І работу мела, добра аплатную, і хоць звязаную з земляробствам — чыстую. А Маня што — бацькі на гаспадарцы пакінулі сына, малодшую дачку пусцілі вучыцца, а Маня якую работу дастала ў Беластоку — жалезныя цвікі рабіла ды гайкі. Звычайная чорнарабочая, якая нават яшчэ не навучылася казаць «тэн», а гаварыла «гэты».

Пазнаёміліся былі на забаве ў Барысаўцы. Спадабаліся адно аднаму. Маню захаплялі асабліва яго вусны, прыгожыя, пукатыя, з якіх ліліся кампліменты пра яе красу, сілу амаль мужчынскую і вабнасць, проста дзікую. Умеў Саня прыхарошыць слова, умеў снаваць планы пра супольнае жыццё. Хоць моладзь у неўзабаве «развінутым сацыялізме» рвалася ў гарады, вучыцца і працаваць пры мястовай рабоце, Саня меркаваў застацца ў сваёй вёсцы. Неўзабаве амерыканскі карабель апынуўся на Месяцы, зараз жа наступіла геркаўская эпоха ўздыму вёскі. Жыць хацелася! Саню і Мані, народжаным у 1946 годзе, было ж ледзь за дваццаць. Бацькі Мані, з вёсачкі двойчы спаленай у дзве вайны, цешыліся, што ў яе хлопец з такой зажытачнай сям'і, талковы, гаспадарлівы. А Маня, такая залюблена і шчаслівая, рыхталася да вянца, калі Саня, правёўшы яе за загуменні, сказаў шчыра і рэзка:

— Манюля, мусім расстацца. Ты нікто і нічога не здабудзеш. Голая ды вясёлая, і толькі таго. Мне сватаюць вучоную дзеўку, багатую. Не пярэч. Nie utrudniaj mi tej sytuacji, — дадаў па-польску, як чуў у тэлевізары ў фільме. Вялікае ўражанне рабілі на ім і тэлевізар, і радыё — у іх вёсцы ў іхняй сям'і тэлевізар быў першы, спачатку чорна-белы, пасля каляровы. І радыё іграла яму ўвесь час — на работу ў поле браў радыё на транзістарах, а ўжо ў XXI стагоддзі слухаў радыё з тэлефона, праз слухаўкі. У апошнія гады не выключаў Саня Радыё Рацыя...

— Як тыя гады хутка мінаюць, — уздыхае Марыя Рысь. Жыве яна цяпер у цэнтры Беластока. — Доўга не магла я прыйсці да сябе пасля таго, калі даведалася, што я нікто і нічога ў жыцці не дасягну, вылезшы з галечы. Чаго было чакаць? Саня хутка ажаніўся, і перастаў бываць на нашых забавах. А я пазнаёмілася на танцах у Семяноўцы з файным хлопцам са шматдзетнай сям'і, і зараз мы і пабраліся. Можа, за хутка, мне ж было толькі дваццаць тры гады. Мала я ведала свайго Колю, асабліва пра яго жарсць да гарэлкі. Пасля прыйшлося з гэтым змагацца, але хто выйграў з гарай! Цэлыя сем'і скрыўленыя праз яе. Усё жыццё такое, што хоць галавой у сцяну біся. Але дала рады. Выгадавалі мы з Колем двое дзяцей, вывучылі, займелі вялікую кватэру. Хацелася мне вучыцца далей, але ўжо не было да гэтага галавы. Адно што чытала і чытаю шмат, так што ведаў у мяне многа на розныя тэмы. З натуральнай медыцыны магла б рабіць дактарат, — смяецца. — Да пенсіі рабіла я прыбіральніцай. Праца нікога не ганьбіць. Ведаю маладую пісьменніцу з Бельска, якая, прыбіраючы, напісала і выдала дзве кнігі. Вельмі я за яе рада. Вось, і часам мне хочацца за пяро ўзяцца. Апісаць жыццё былое, нашае. Як жылося, і што адчувалася. Пра тыя пачуцці, якія ў кожнага ёсць, якія кіруюць намі. Пра тыя, якія не маглі і не могуць здзейсніцца... Пахавала я свайго Колю зусім маладым, даканала яго гара. Хоць быў нядрэнны, шчыры чалавек. Гатовы сваю кашулю аддаць чалавеку ў патрэбе. І я такая самая. Падзялюся апошнім кавалкам хлеба. Веру ў тое, што Бог аддзячыць дабром за добрыя ўчынкі і думкі. Жыву спакойна, дзеці хораша склалі сваё жыццё, дзякуй Богу. Ды Саня дыхнуць не дае. Звоніць да мяне пры сваёй жонцы. Бедная, такая хворая, можа апошнія хвіліны жыцця ёй горычу залівае, заядае душу. Дзяцей не маюць. Абое на пенсіі, сядзяць дома. Як ён можа ёй глядзець у вочы! А ён яшчэ і засунуць мяне ў кут хоча.

Марыя Рысь летуе ў вёсцы мужа. Заязджае з вясны, а з'язджае позняй восенню. Вырошчвае гародніну на градах, ходзіць у лес па грыбы, на лугі і падлескі па зелле, з якога гатуе розныя лячэбныя мікстуры. «Белавежская ведзьма», — смяецца сама з сябе. Тым больш, што ходзіць усюды са сваім старэнькім коцікам, якога забірае з горада ў вёску. Уся ваколіца ведае гэтую незвычайную жанчыну. Ды як да яе дабрацца? Перш за ўсё закаханаму на старасць былому кавалеру? Даў рады! Пазнаёміўся з яе сябрамі з суседняй вёсачкі, Зосяй ды Васем, прыехаў да іх. Пасля нават з жонкай. На машыне прыгнаўся з падарункамі на іхняе пяцідзесяцігоддзе з дня шлюбу. І ад парога закрычаў, вырачыўшы свае блекла-васільковыя пукатыя вочы: «А дзе Марыя?!». Побач стаяла яго ціхая жонка, спакутаваная хваробай. Гаспадыня, старая сяброўка Мані, ад крыўды была гатова выкінуць госця за дзверы. Але ж вялікае сямейнае свята... А Маня, доўгачаканы госць, не прыехала. Прадчувала, што ўхажор, які хоча забіць яе ў кут і прымусіць да ягонай палкай любові, адважыцца заспець яе тут. Праз амаль паўвека адумаўшыся, што змарнаваў сваё каханне і жыццё. Не толькі сабе.

Пазваніў зноў у вёску да новых сяброў. А Вася кажа: «Узяла выйшла замуж Маня, ты яе не турбуй. Ты проста ненармальны, дай ёй жыць!» — «А што, разгірачылася перад якімсь мужыком? Сука, лёха!..» Вася пачуў у трубцы рыданне Саневай жонкі, Валі...

Ужо не пазвоніць Аляксандр ні Марыі Рысь, ні Васю з Зосяй, ні на Радыё Рацыя. Памёр у студзеньскую ветраную ноч. А яго жонка жывая, дай Бог ёй здароўе і супакой. А Марыі Рысь усе мы перадаем прывітанне на хвалях эфіру, дзе лунае і яе добрая, людская душа.






Ала ЯСВІЛОВІЧ / Семяноўка

## Валя — успаміны

Вочы Ты замкнула свае
І не гаворыш ні слова.
На могілках для Цябе
Магілка ўжо гатова.

А на магілцы вянок
Кветкамі ўплецены багата.
Пры магілцы дзве дачушкі і сынок,
Кажуць: «Мама, тут Твая хата».

Ляжыш і не ўстаеш,
У новыя шаты адзета.
На родных не глянеш.
Адышла з гэтага свету.

Астануцца толькі ўспаміны
Пра Цябе, Дарагая.
Няма нічыёй віны.
Відаць, судзьба такая?!.

## Талент і алкаголь

Талент ад Бога табе даны.
Яго трэба шанаваць.
А ты ходзіш штодня п'яны
І не хочаш перастаць.

Апамятайся і пакінь
Піць гарэлку і віно.
Беларускі ты ёсць сын!
Не каціся ты на дно!

Лаві талент свой.
Знай, не кожны яго мае.
Пад магазінам больш не стой.
Хай табе Бог памагае.

Эх! Яшчэ скажу табе,
Што заўсёды ёсць прычына
Выпіць шклянку або дзве.
Хто не п'е, той «не мужчына».

Называюць цябе «паэт».
Цябе трэба шанаваць.
Нарадзіўся ты на свет
Вершы гожыя пісаць.

Ты пішы, пішы, пішы!
Аб усім і для ўсіх.
Напішы ты ад душы,
Для слязы і на смех!

## Бацюшка Мікалай

Богу ўсё жыццё Ты служыш,
Шэсцьдзясят лет Ты нам Айцом.
Божай міласці даслужыш,
Нашай Царквы Ты тварцом,

Аўтарам нашае гісторыі.
У час Тваёй нагоды
Скажам проста без эйфорыі:
Заслужыў Ты гэтай узнагароды.

Чэсць Табе і хвала,
За Тваё маленне.
Даканаў Ты тут нямала.
Дзякуем за Тваё багаславенне.

І яшчэ падзяку трэба
Даць Табе — Ты наш Айцец.
Прыбліжаеш нас да неба,
Як пастыр сваіх авец.

У дзень Твайга свята,
У шасцідзясятую гадавіну,
Чым хата багата,
Прымі сваю радзіну.

Што б Ты мог маліцца
Нашаму Святому Богу,
Парафіянам прыслужыцца,
Просім Бога дапамогу.

Кошык пахучых кветак
Даем Табе, Айцец наш,
Захавай сваіх, Ойча, «дзетак»,
Сахрані на ўвесь час.

А мы будзем заўжды маліцца
За здравіе Айца,
Каб мог Богу прыслужыцца
У нашай Царкве да канца.

1 працяг

# Навагоднія сустрэчы ў Гайнаўскім белліцэі

— Сёння я спявала песню пра журналіста, на словы маёй цёці **Кацярыны Бяляўскай** і калядку на словы **Віктара Шведа**. Выступ падчас «Бардаўскай восені» дапамог мне акрэсліць, чым мне займацца ў будучыні. Я хацела б вучыцца ў вышэйшай тэатральнай школе. Зараз прымаю ўдзел у платных тэатральных майстар-класах у Тэатры імя Аляксандра Вянгеркі ў Беластоку. Мне вельмі падабаліся заняткі ў тэатральным калектыве пані Іаанны Стэльмашук-Троц у Гайнаўскім белмузеі, дзе я многаму навучылася. Мяркую, што заняткі ў гэтым тэатральным гурце і ў Студыі песні Гайнаўскага дома культуры будуць прыдатнымі падчас паступлення ў тэатральную школу, — сказала **Анна Бяляўская**.

**Яцак Дружба** стыпендыю маршалка Падляшскага ваяводства атрымаў за актыўнасць у музыцы, у тэатральным і танцавальным калектывах.

— Я добра і свабодна адчуваю сябе на сцэне. Здаўна танцую ў Калектыве народнага танца «Перапёлка» Гайнаўскага дома культуры, іграю на акардэоне. Сёння зайграў я два творы. Займаюся таксама ў ліцэйскім тэатральным калектыве «Драма» і ў тэатральным калектыве ў Гайнаўскім белмузеі. На акардэоне я іграю таксама ў калектыве «Верасы» з Чыжоўскай гміны. За стыпендыю маршалка хацеў бы я купіць лепшы мікрафон да


Анна Бяляўская

акардэона і паўдзельнічаць у платных тэатральных занятках, бо ў будучыні намерваюся паступіць у тэатральную школу, — сказаў **Яцак Дружба**.

Белліцэістка **Ганна Хомчук** зайграла на піяніна музычную інтэрпрэтацыю да агульнавядомай калядкі «Раждзство Хрыстовае», а пазней заспявала калядку разам са сваёй сястрой белгімназісткай Іааннай.

— Я вучуся іграць на піяніна, але для сястры саставіла акампанемент на ўкулеле. На піяніна запрэзентавала інтэрпрэтацыю да вядомай калядкі «Раждзство Хрыстовае», якую кожны можа ўспрыняць па-свойму, — сказала Ганна Хомчук.


Наталля Васько

**Зміцер Вайцюшкевіч** спяваў свае навейшыя творы і вядомыя шэдэўры. Публіка неадкладна ўключалася ў супольнае спяванне з бардам. Заспяваў ён некаторыя песні па жаданні бацькоў, якія праяўлялі асаблівую актыўнасць у час канцэрта асаблівага госця навагодніх сустрэч. Зміцер Вайцюшкевіч параіў вучням разгортваць свае здольнасці і таленты, але таксама мець на ўвазе свае магчымасці, як у музыцы, так і ў іншых галінах мастацтва.

Дырэктар Ігар Лукашук падзякаваў сабраным за ўдзел у навагоднім музычным канцэрце і запрасіў на пачастунак, які быў наладжаны побач актавай залы.

— Мы, як бацькоўскі камітэт школы, станоўча прынялі прапанову дырэктара Ігара Лукашука арганізаваць «Навагоднія сустрэчы» і запрапанавалі падрыхтаваць салодкі пачастунак. Мне падабаецца, што падчас сустрэч была зроблена стаўка на нашу традыцыю. Вучні з настаўнікамі выканалі падвешаныя пад столь актавай залы павукі. Зоркі, што вісяць за сцэнай, падобныя да тых, якія ў мінулым выконваліся з паперы дзяўчатамі для ўпрыгожвання вясковых хат зімой. Спяваліся таксама нашы традыцыйныя калядкі, — заявіла пасля канцэрта старшыня бацькоўскага камітэта **Люцына Рушук**.

— Такая навагодняя сустрэча гэта добрая ініцыятыва, бо можам пазнаёміцца з актыўнасцю нашых дзяцей у галіне музыкі. Вучні маюць магчымасць пераадолець хваляванне і заспяваць на сцэне перад большай публікай, — гаварылі бацькі.

Падчас пачастунку за кавай і гарбатай настаўнікі размаўлялі з вучнямі і іх бацькамі.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**



# http://turyst.by

Ужо некалькі гадоў запар беларускія ўлады многа кажуць пра прыцягненне ў краіну замежных турыстаў. Летась нават зрабілі пяць дзён бязвізавага знаходжання для тых замежнікаў, якія прылятаюць у Беларусь праз Нацыянальны аэрапорт „Мінск-2". Сёлета ўлады распаўсюдзілі гэтую практыку на асобныя раёны Брэсцкай і Гарадзенскай абласцей, прычым павялічыўшы тэрмін бязвізавага знаходжання да дзесяці дзён. Апошні крок яскрава падкрэслівае, што афіцыйны Мінск зараз больш зацікаўлены ў прыцягненні турыстаў з захаду, спадзеючыся на іх кашалькі, бо турысты з усходу і так прыязджаюць у Беларусь праз адсутнасць усходняй мяжы, праўда, кашалькі іх апошнім часам значна палягчэлі.

У развіцці турыстычных стасункаў з краінамі, што на захад ад Беларусі, зацікаўлены і прыватныя бізнесоўцы. Практычна кожная турыстычная фірма мае свой сайт, аднак не кожная мае сайт з беларускай мовай. Адным з нешматлікіх беларускамоўных турыстычных агенцтваў з'яўляецца Turyst.by, віртуальнае прадстаўніцтва якога месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://www.turyst.by.** Уласна агенцтва знаходзіцца ў мястэчку Ашмяны Гарадзенскай вобласці.

Варта адразу адзначыць, што сайт мае не толькі беларускую, але і англійскую версіі. Прычым яны адрознiваюцца адна ад другой. Інфармацыяй у першай скіраванай на жыхароў Беларусі, а ў другой — на гасцей беларускай краіны. Адпаведна, і рубрыкі ў кожнай моўнай версіі адрознiваюцца. Так, у англійскай версіі распавядаецца пра асаблівасці атрымання беларускай візы, пра паляванне ў Беларусі, экскурсіі па ёй, экатурызм, гістарычны рэканструкцыі.

Беларуская версія па колькасці рубрык меншая за англійскую, але выйграе ў яе ў больш прывабным афармленні. Зыходзячы з інфармацыі, размешчанай на галоўнай старонцы, для жыхароў Беларусі агенцтва ў многім скіравана на польскі накірунак, як у турызме, так і ў сумежных галінах. Пра гэта сведчаць такія рубрыкі сайта, як „Курсы польскай мовы" і „Адукацыя ў Польшчы". Выйсці на іх месцяцца як з левага боку цэлага выяўлення, так і пасярэдзіне галоўнай старонкі ў выглядзе асобных банэраў.

Другой у пераліку беларускіх рубрык ідзе рубрыка „Турызм". „Ваша вандроўка пачнецца з таго моманту, як вы патрапіце да нас у офіс. Цяперака наш клопат будзе суправаджаць вас да самага заканчэння падарожжа!" — гучна сцвярджае Turyst.by, прапануючы пляжны адпачынак, экскурсіі па Беларусі і Еўропе, візавыя паслугі, набыццё аўтобусных білетаў і авіяквіткоў. Пазначаны на сайце і нейкі адукацыйны турызм, але даведацца пра яго ніяк не магчыма, бо старонка знаходзіцца ў распрацоўцы.

Верагодна, што адукацыйны турызм ад Turyst.by так ці інакш звязаны з Польшчай, бо дадзеная падрубрыка дублюецца ў вышэйзгаданай рубрыцы „Адукацыя ў Польшчы".

Як сцвярджаецца на сайце, адукацыя ў Польшчы для жыхароў Беларусі можа быць цікава тым, што паступленне ў некаторыя ВНУ — без уступных экзаменаў і „практычна гарантаванае". Тых, хто зацікавіцца навучаннем у суседняй краіне, запрашаюць вывучыць польскую мову, абяцаючы розныя ўзроўні яе авалодання. Праўда, даведацца пра цану можна толькі асабіста, патэлефанаваўшы па пазначаным тэлефоне.

**Аляксандр ЯКІМЮК**

## Дата з Календара



## Падзеі і асобы БНР



### 20 студзеня — дзень расстрэлу

# Вацлава Ластоўскага

80 гадоў таму, 23 студзеня 1938 г., у расейскім Саратаве расстралялі аднаго з выдатных беларускіх дзеячаў і стваральнікаў БНР Вацлава Ластоўскага.

Нарадзіўся ён 8 лістапада 1883 г. у засценку Калеснікаў Дзісенскага павета (Глыбоцкі раён Віцебскай вобласці) у сям'і беззямельнага шляхціца. Выдатны чалавек многіх талентаў выявіў сябе як гісторык, філолаг, этнограф, публіцыст, пісьменнік, літаратуразнавец. Шматгранная асоба Ластоўскага развівалася б і далей, калі б не гвалтоўна абарванае жыццё ў савецкіх катавальнях.

Вацлаў юнаком скончыў на радзіме Пагосцкую пачатковую школу. Пасля непрацяглы час вывучаў лацінскую мову ў свайго дзядзькі Францішка Ластоўскага. У 1896 годзе, прайшоўшы пехатой 70 вёрстаў да чыгункі, Ластоўскі з'ехаў у Вільню. Працаваў хлопчыкам на паслугах у вінной крамцы, канцылярыстам у Шаўлях, бібліятэкарам у студэнцкай бібліятэцы ў Санкт-Пецярбургу, дзе наведваў лекцыі ва ўніверсітэце. Уступіў у Польскую сацыялістычную партыю. Працаваў канторшчыкам на таварнай станцыі ў Рызе. Далучыўся да беларускага нацыянальнага грамадскага і культурнага руху. У 1906-1908 гг. уваходзіў у Беларускую сацыялістычную грамаду. У 1906 годзе быў арыштаваны за сацыялістычную прапаганду і сядзеў некалькі месяцаў у турме.

З 1909 г. быў сакратаром рэдакцыі „Наша Ніва" і загадчыкам першай беларускай кнігарні, у 1916-1917 гг. — рэдактар газеты „Гоман", у 1918 г. выдаваў газету „Krywicanin". Адзін з аўтараў „Мемарандума прадстаўнікоў Беларусі", у якім баранілася права беларускага народа на нацыянальна-дзяржаўнае развіццё і які быў прадстаўлены на міжнароднай канферэнцыі ў Лазане ў 1916 г. У 1918-1919 гг. — сябра Віленскай беларускай рады, у сакавіку 1918 г. кааптаваны ад яе ў склад Рады БНР. Удзельнічаў у абвяшчэнні незалежнасці. У канцы 1918 г. узначаліў прадстаўніцтва ўрада БНР пры літоўскай Тарыбе, быў беларускім аташэ пры літоўскім пасольстве ў Берліне. З 1919 г. — у партыі беларускіх эсэраў, са снежня 1919 г. да красавіка 1923 г. узначальваў Раду міністраў БНР, быў яе прэм'ерам.

Удзельнічаў у арганізацыі вызвольнага партызанскага руху ў Заходняй Беларусі, быў старшынёй Сувязі нацыянальна-дзяржаўнага вызвалення Беларусі. Быў арыштаваны і зняволены польскімі ўладамі, у 1920 г. яму было дазволена выехаць у Літву. У красавіку 1923 г. выйшаў з урада БНР і адышоў ад актыўнай палітычнай дзейнасці. Выдаваў у Коўне літаратурна-навуковы часопіс „Крывіч" (1923-1927).

У красавіку 1926 г. пераехаў у БССР, спадзеючыся на стваральную працу на карысць радзімы. У 1927 г. урад БССР дазволіў яму вярнуцца ў Менск. Працаваў дырэктарам Беларускага дзяржаўнага музея. З 1928 г. Вацлаў Ластоўскі быў акадэмікам і сакратаром Інбелкульта і Акадэміі навук БССР.

У 1930 г., у час экспедыцыі ў Сібір, Ластоўскага арыштавалі па справе „Саюза вызвалення Беларусі", пазбавілі звання акадэміка і выслалі на 5 гадоў у Саратаў. Там ён працаваў загадчыкам аддзела рэдкай кнігі ва ўніверсітэцкай бібліятэцы. Паўторна арыштаваны ў 1937 г., прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Па першым прыгаворы быў рэабілітаваны 10 чэрвеня 1988 г., па другім — у 1958 г.

Ластоўскі пакінуў унікальную спадчыну, адзін яго „Расійска-крыўскі (Беларускі) слоўнік" варты працы цэлага навуковага інстытута. Напісана ж пра выдатнага дзеяча і навукоўца мала. У 2012 г. у Глыбокім усталяваны бюст Ластоўскага. Вуліц з яго імем у Беларусі дагэтуль няма.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# **Еўрасаюзнае дафінансаванне** турыстычных праектаў па праграме «Польшча-Беларусь-Украіна»

Больш за 5,5 мільёна еўра разам атрымаюць падляшскія самаўрады Драгічына, Саколкі і Шчучына ды іхнія партнёры з Беларусі, Польшчы і Украіны на супольныя трансгранічныя праекты. Асноўнай мэтай праектаў з'яўляецца развіццё турызму і добрасуседскіх кантактаў. Дамову аб дафінансаванні падпісаў у сераду ў Маршалкоўскай управе віцэ-міністр развіцця Адам Гамрышчак. Еўрасаюзныя сродкі паступяць з трансгранічнай праграмы «Польшча-Беларусь-Украіна 2014-2020».

Драгічын на Падляшшы супольна з Драгічынам на Беларусі і Сокальскім раёнам на Украіне будуць рэалізаваць праект пад назвай «Спалучае нас Буг». Бургамістр Драгічына Войцех Божым сказаў, што ўзнікне каля 850 кіламетраў байдарачных шляхоў ад Прыбужжа на Украіне, дзе знаходзяцца крыніцы ракі Буг, праз Беларусь па прытокі ракі ў Польшчы.

Усё гэта мае паўплываць на прадаўжэнне байдарачнага сезона, развіццё турызму. Шлях будзе абазначаны, з інфармацыяй на сайце. На беразе ракі будуць вызначаны месцы, дзе байдарачнікі змогуць сысці на адпачынак.

У трох месцах узнікнуць байдарачныя цэнтры. У Драгічыне на Падляшшы можна будзе пакарыстацца рарытэтным байдарачным трэнажорам, а на адкрытым басейне, раней чым турыст выплыве на раку, можна будзе паспрабаваць сваіх умеласцей на малой байдарцы.

— Горад Саколка супольна з Гроднам будуць ствараць турыстычны шлях звязаны з асобай літоўскаага падскарбія, гарадзенскага старасты, архітэктара графа Антонія Тызенгаўза, які жыў у XVIII стагоддзі. Узнікне 59 шляхоў. Па абодвух баках мяжы для патрэб турыстаў будзе куплена 60 ровараў, у гэтым ліку і электрычныя. У Саколцы і Гродне будуць адрэстаўраваны старадаўнія дамы на культурныя патрэбы. У Саколцы і Гродне ўзнікнуць лавачкі з Тызенгаўзам, — канстатавала бургамістар Ева Кулікоўская.

Шчучын на Падляшшы і Шчучын на Беларусі, а таксама Ковель на Украіне збудуюць цэнтр дыялогу культур у сваіх мясцовасцях. Бургамістр Шчучына Артур Кучынскі сказаў, што гарады ад некалькіх гадоў супрацоўнічаюць паміж сабою, а праграма «Польшча-Беларусь-Украіна», гэта шанц на новыя магчымасці гэтага супрацоўніцтва. Цэнтр дыялогу паслужыць сустрэчам, успамінанню расслоенай спадчыны суседзяў.

Віцэ-міністр Адам Гамрышчак сказаў, што праекты, якія будуць рэалізаваны ў рамках дагавораў, гэта «вельмі важныя як для турыстычных, так і культурных мэт» інвестыцыі, якія паспрыяюць захаванню «прыроднай спадчыны польска-беларуска-ўкраінскага памежжа». Прамоўцу цешыў факт, што ў большасці праектаў удзельнічаюць партнёры з трох краін.

Віцэ-міністр паінфармаваў, што ў апошнім годзе быў размеркаваны 141 мільён еўра ў рамках праграмы «Польшча-Беларусь-Украіна 2014-2020» (83% сродкаў з гэтай праграмы). У конкурсах вылучана 48 праектаў на дафінансаванне, 10 праектаў па-за конкурсам чакае зацвярджэння Еўрасаюзам. Гаспадарчыя суб'екты з Падляшскага ваяводства ўдзельнічаюць у 15 конкурсных праектах як партнёры, і па-за конкурсам, напрыклад, мадэрнізацыя пагранпераходу ў Семяноўцы. Разам у Падляшскае ваяводства трапіць 21 мільён еўра.

Гамрышчак сказаў, што квота можа быць большай таму, што ў сакавіку будуць выбраны чарговыя праекты для дафінансавання з галіны бяспечнасці. У верасні, мабыць, пачнецца набор на меншыя праекты, мэтай якіх будзе развіццё добрасуседскіх адносін на памежжы. Можна будзе пахадайнічаць за 20-60 тысяч еўра на культурныя, адукацыйныя праекты, майстар-класы, фестывалі.

**Апр. (УС) за Белсат/PAP**

ZG Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego w Białymstoku i Hajnowski Dom Kultury

zapraszają na

eliminacje rejonowe XXV Ogólnopolskiego Festiwalu

**“PIOSENKA BIAŁORUSKA 2018”**

**27 stycznia 2018 r. (sobota) godz. 14:00**

**Hajnowski Dom Kultury**

*Wstęp wolny*

*Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji*

## Адгаданка

**1.** мышачны орган у роце, які часта добра патрымаць за зубамі, **2.** Эдгар, французскі мастак (1834-1917, *Degas*), **3.** напарнік молата ў савецкім гербе, **4.** упрыгожанае дрэва ў навагодняй хаце, **5.** пухліна з-за лішняй вадкасці ў тканках, **6.** няшчасце, якое валачэ за сабою... каваліха, **7.** колішняя паштовая станцыя, дзе мянялі коней, **8.** арамат, **9.** гукі, якія ўтвараюцца пры хлюпанні вады, **10.** наўмысны зрыў мерапрыемства, у якім... абат, **11.** дзясятак дзясятак, **12.** незамкнутая крывая лінія, якая ўтварае шэраг абаротаў вакол восі, **13.** акцэнт.

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 1 | | | 2 | | | | |
| | 3 | | 4 | | | | | | | | 5 |
| 6 | | | | 7 | | | 8 | | | | |
| 9 | | | | | | | | 10 | | | 11 |
| | | | | 12 | | | | 13 | | | |

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — сербская пагаворка. **(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 1 нумара**

Вуда, Гуно, мі, ода, Шырма.

Рашэнне: **Новаму году і мыш рада**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

## 28.01 — 03.02

**(22.03. — 20.04.)** Выйдзеш на простую дарогу. 28.01. можа не хапіць табе тактычнасці або няхоцькі кагосьці пакрыўдзіш. Вельмі ўдадуцца карнавальныя імпрэзы. Не раскідвайся грашыма, хаця можаш іх трапна і разумна інвеставаць. Не куры цыгарэт, пашукай нейкіх заменнікаў для іх. Можа, з'ездзіш на мора, падыхаеш ёдам? Можаш пасябраваць з Вадалеем.

**(21.04. — 21.05.)** Не занядбоўвай важных спраў. 28-31.01., не ўпары нейкай кампанейскай прамашкі. Вялікая папулярнасць у кампаніі, сярод іншага полу. Добрая форма і настрой. Быкі з другой дэкады цяпер вельмі паспяховыя. Быкам з пераломy другой і трэцяй дэкады пашанцуе ў пахудзенні. Загадкай будзе для цябе Рак.

**(22.05. — 22.06.)** Удасца зрэалізаваць свае намеры. У пачуццях паявіцца новыя шанцы і нагоды, каб нават пабушаваць. Думкі пра іншых лепш захавай сабе. Найлепш паправіш здароўе і настрой... пагладзіўшы ката ці сабаку. Хаця не будзе хацецца злезці з фатэля, мусіш рэгулярна варушыцца. Пазбягай людзей і сітуацый, якія даводзяць цябе да стрэсу. Скарпіён адкажа на твае пытанні. Можаш дасягнуць душэўнай раўнавагі.

**(23.06. — 23.07.)** Чакаюць сюрпрызы ў прафесійнай сферы, магчыма, з табой захочуць пагутарыць уплывовыя персоны. Не спрабуй здавацца лепшым, чым ты ёсць — няхай будзе шчырасць у адносінах. У фінансавых справах прыемныя перамены — хтосьці аддасць даўні даўжок, хтосьці запрапануе выгаднае супрацоўніцтва. У апошні студзеньскі дзень на любоўным фронце сапраўдны перапалох — ад такой колькасці прыхільнікаў галава закружыцца!

**(24.07. — 23.08.)** Старайся не адступаць перад цяжкасцямі, усе праблемы часовыя. У сярэдзіне тыдня пажадана зрабіць маленькі выхады — час месяцовага зацьмення лепш правесці на прыродзе, маючы зносіны з дарагімі і прыемнымі людзьмі. Спакойна разбярэшся ў асабістым жыцці. Папесь сябе маленькім шопінгам, і зрабі свята для свайго страўніка.

**(24.08. — 23.09.)** Навучыся стрымліваць эмоцыі і перастань звяртаць увагу на заўвагі калег і кіраўніцтва. На аўторак і сераду зоркі прадказваюць дзелавыя паездкі і камандзіроўкі, а ў чацвер пажадана знайсці час для сямейных мерапрыемстваў. Прыхільнікі перастануць спрачацца, і будуць падтрымліваць усе твае ідэі. Не выкарыстоўвай сваю прывабнасць у карыслівых мэтах.

**(24.09. — 23.10.)** Карыстайся адкрытымі магчымасцямі, час будзе яркім і запамінальным. Любая калектыўная дзейнасць паспяховая, а калі аддаеш перавагу працаваць у адзіночку, таксама не застанешся без прыемных сюрпрызаў. У сераду хваляванні — у перыяд месяцовага зацьмення адносіны могуць стаць напружанымі. У пятніцу неверагоднае грашовае шанцаванне — але гэта не цуд, гэта вынік тваёй настойлівасці і ўпартай працы.

**(24.10. — 22.11.)** Сцеражыся людзей, якія выкарыстоўваюць цябе ў сваіх мэтах — выліч маніпулятараў, спыні з імі зносіны. Тыдзень нядрэнны, зможаш рэалізаваць творчыя планы, і прыступіць да працы над даўно выношаным праектам. У сумнеўныя гешэфты лепш не ўвязвайся.

**(23.11. — 22.12.)** Лепш пазбаўся ляноты, і бярыся за працу. Чым больш зробіш, тым больш эфектыўны будзе вынік. Але не перанатужвайся. У пятніцу зможаш ажыццявіць жаданні якія тычацца дома. Хай галава баліць у тваіх прыхільнікаў, а ты знайдзі час для паходу па крамах і абнаўлення гардэроба.

**(23.12. — 20.01.)** Твой прафесіяналізм на вышыні, ты цяпер незаменны. Дзяліся вопытам. У сярэдзіне тыдня фінансавыя бонусы — старайся пісьмова распарадзіцца «выпадковымі» грашыма, і не марнуй сродкаў на забаўкі. Нацешышся цёплымі і гарманічнымі зносінамі.

**(21.01. — 19.02.)** Твае інтарэсы павінны стаць на першым месцы. Усе праблемы будуць вырашаца хутка і эфектыўна. Не адмаўляй у дапамозе сябрам і калегам. У панядзелак разбярыся з фінансавымі і маёмаснымі пытаннямі. У першы дзень лютага чакае цікавая сустрэча. Будзе новы прыхільнік або ўплывовы заступнік

**(20.02. — 21.03.)** Шмат залежыць ад правільнага настрою. Будзь на пазітыве, не звяртай увагі на старонні перашкоды. Фінансавая сітуацыя пачне паляпшацца ў сераду. Чацвер добры для вырашэння любых праблем. У пятніцу могуць наляцець нечаканыя госці. Радні ў цябе шмат, так што паспрабуй уразіць усіх ляненне візіцёраў незвычайнымі закускамі і напоямі!

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

**Ніва** ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

*PL ISSN 0546-1960*
*NR INDEKSU 366714*

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.


Пётр Хомік

# Праваслаўная царква ў ПНР

17 студзеня ў Беластоцкім універсітэце праф. **Пётр Хомік** — даследчык гісторыі праваслаўя ў Польшчы, а заадно дырэктар Універсітэцкай бібліятэкі імя Ежы Гедройца — зачытаў даклад на тэму „Kościół Prawosławny w PRL. Stan badań i problemy badawcze". Даклад быў пяцідзясятым з цыкла „Podlasie w badaniach naukowych" ды адзначыў дзесяцігоддзе гэтага мерапрыемства. Прысутнічалі, апрача зацікаўленых навуковых супрацоўнікаў, таксама вучні некаторых беластоцкіх школ, у іх ліку Праваслаўнай школы свсв. Кірылы і Мяфодзія. Прыводжу скарочанае рэзюмэ даклада.

Пачаць трэба з таго, — сказаў праф. Пётр Хомік, — што цягам доўгага перыяду існавання Польскай Народнай Рэспублікі не праводзіліся даследаванні датычныя Праваслаўнай царквы. Толькі ў 1980-х гадах паявіліся першыя даследаванні, якія неабавязкова былі спалучаны з гісторыяй Праваслаўнай царквы, хаця нейкім чынам гісторыю тае Царквы кранալі. У 1985 годзе паказалася кніга праф. Тэрэсы Хынчэўскай-Хенель пра нацыянальную свядомасць украінскай шляхты ў 17-18 стагоддзях і там праблема Праваслаўнай царквы ў Рэчы Паспалітай у новы час была заўважана. Гэта здарылася ў пээнэраўскі перыяд. Чарговай кнігай была праца праф. Мар'яна Бэндзы, якая таксама адносілася да новага часу. Але не толькі тая эпоха. У 1980-х гадах паказалася кніга праф. Міраславы Папежынскай-Турэк пра адносіны дзяржавы да праваслаўя ў 1918-1939 гадах.

Калі азірнуцца на даследчыцкія працы датычныя самога ПНРу, то яны маглі паявіцца толькі пасля 1989 года, пасля грамадскіх перамен. Складана сказаць, хто быў першапраходцам даследавання гісторыі Праваслаўнай царквы ў ПНР, але мне здаецца, што такім першапраходцам быў праф. Казімеж Урбан з Кракава, які ў пачатку 1990-х гадоў на старонках «Wiadomości Polskiego Autokefalicznego Kościoła Prawosławnego» і «Царкоўнага Весніка» ды іншых органаў праваслаўнай прэсы апублікаваў шэраг матэрыялаў датычных пасляваенных лёсаў мітрапаліта Дыянісія Валедынскага, сітуацыі праваслаўных лэмкаў пасля Другой сусветнай вайны ды іншых праблем датычных праваслаўя ў Польшчы. Таксама ў перыядычным выданні «Białostocczyzna» апублікаваў матэрыялы датычныя пасляваенных лёсаў Праваслаўнай царквы ў тагачасным Беластоцкім ваяводстве. Найважнейшай працай праф. Казімежа Урбана была праца «Kościół Prawosławny w Polsce w latach 1945-1970» — ад заканчэння Другой сусветнай вайны да часу ўступлення на мітрапольны прастол мітрапаліта Васілія. У гэтай кнізе знамянальныя некаторыя даты, тут разгледжаны цэлы стабілізацыйны працэс Праваслаўнай царквы ў пэнэраўскай рэчаіснасці. Гэта па сённяшні дзень адна з асноўных прац датычных таго перыяду дзейнасці Праваслаўнай царквы ў ПНР. Выйшла таксама ягоная кніжка датычная лёсаў а. Стэфана Бегуна ды кніга пра а. Афанасія Сэмэнюка — шматгадовага настаяцеля мітрапольнай кафедры ў Варшаве ды таварыша нядолі ў час пасляваеннага інтэрнавання мітрапаліта Дыянісія Валедынскага.

З ходам часу сталі паяўляцца чарговыя кніжкі. У 1993 годзе паказалася кніга пад рэдакцыяй праф. Антона Мірановіча «Kościół Prawosławny w Polsce dawniej i dziś». Гэта ўжо была падзея ў царкоўнай гістарыяграфіі. У кнізе было шмат статыстычных даных, датычных Праваслаўнай царквы ў розныя перыяды яе гісторыі, але таксама змястоўна яна прэзентавала гісторыю Праваслаўнай царквы ў Польшчы, так даўнюю, як і больш сучасную. Вельмі цікавыя былі апублікаваныя там мапы, які прэзентавалі адміністрацыйная дзяленне Праваслаўнай царквы зараз пасля Другой сусветнай вайны, як і ў пазнейшы час, калі склалася цяперашняя структура Польскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы.

І далей можна перайсці да чарговай кнігі праф. Антона Мірановіча «Kościół Prawosławny w Polsce w XIX i XX wieku». Апошні раздзел гэтай кнігі поўнасцю прысвечаны гісторыі Праваслаўнай царквы пасля Другой сусветнай вайны. У гэтым раздзеле закранута мноства матываў і не ўсе з іх удалося, беручы пад увагу, зразумела, аб'ём матэрыялу, прадставіць вычарпальна. І, паводле мяне, гэты раздзел з'яўляецца знакамітым адпраўным пунктам для далейшых даследаванняў чарговых вучоных, зацікаўленых далейшым высвятленнем гісторыі Праваслаўнай царквы ў ПНР. З асобных матываў, закранутых у згаданым раздзеле, важнымі з'яўляюцца адносіны праваслаўнага насельніцтва Беласточчыны з іншымі канфесійнымі намінацыямі. Тут разглядаюцца і антаганізмы, адным з галоўных аўтар палічыў справу Супрасльскага манастыра. У мяне на гэты конт крыху іншае меркаванне, бо спрэчкі мелі мясцовы характар і былі па сутнасці спрэчкамі паміж адміністрацыйнымі ўладамі і Праваслаўнай царквой. Каталіцкі касцёл у нейкай ступені браў у гэтым удзел, але сярод ягоных прадстаўнікоў былі і прыхільнікі прызначэння манастыра Касцёлу, як і праціўнікі гэтага. Пасля пачатковай падтрымкі ўладамі інтарэсаў Каталіцкага касцёла далей усталявалася традыцыя юрыдычнага вырашэння канфліктаў, але калі дэталёва прыглянуцца гэтым юрыдычным рашэнням, то Праваслаўная царква заўсёды апынялася на пройгрышным баку; не было такой сітуацыі, каб нейкая спрэчка была юрыдычна вырашана ў карысць Праваслаўнай царквы. Найцікавей, паводле мяне, прадстаўлена праблема адносін улады да мітрапаліце ў 1945-1970 гадах. Пры мітрапаліце Макарыі ўлады пайшлі на шэраг уступак у карысць Праваслаўнай царквы, хаця быў гэта перыяд інтэнсіўнага ўмешвання дзяржаўных органаў у царкоўныя справы. Былі ў той час адмоўна разгледжаны заяўкі пра станаўленне новых прыходаў на Беласточчыне. Калі ў1950-1960-х гадах духоўныя збіралі сярод вернікаў узносы, напрыклад на рамонты цэркваў ці званіц, то іх з падачы ўлад каралі за гэта адміністрацыйныя калегіі штрафамі ды загадамі вярнуць вернікам сабраныя ўзносы. Частай прычынай неадабрэння духоўных уладамі была празмерная іх ангажаванасць у справы партыйнай дзейнасці.

З 1950-х гадоў кадравая палітыка царкоўных улад была рэгулявана дзяржаўным заканадаўствам. Спасылаючыся на тыя законы ўлады абвінавачвалі духоўных, напрыклад, у распальванні ўнутрыпрыходскіх канфліктаў, у дзейнасці нязгоднай з уладнымі вектарамі. Такім чынам улады адмоўна ацанілі дзейнасць мітрапаліта Макарыя, у выніку чаго з'ехаў ён у Савецкі Саюз у 1959 годзе і на прастол мітрапаліта быў выбраны архіепіскап Цімафей Шрэтэр. Перад выбарам мітрапаліта Цімафея разглядаліся таксама кандыдатуры праваслаўных епіскапаў прабываючых у Савецкім Саюзе ды на Захадзе — тых, якія ў даваенны час жылі на тэрыторыі тагачаснай Польшчы. Для прыкладу, разглядалася кандыдатура епіскапа Панцеляймона, пражываючага ў Канадзе, але яго кандыдатура была адмоўна ацэнена Управай бяспекі. Выбар епіскапа Цімафея выклікаў пратэсты вернікаў і часткі духавенства, чаго ўлады не спадзяваліся. Праблема вырашылася натуральным чынам — мітрапаліт Цімафей неўзабаве памёр, у 1963 годзе.

Пасля смерці мітрапаліта Цімафея доўгі час не ўдавалася выбраць яго наследніка; прычынай гэтаму было і спаборніцтва паміж епіскапамі да палітыка ўлад. Улады ўсведамлялі гэтае спаборніцтва і замаруджвалі выбар, да таго ж адмаўляючы адабрэння на пасаду мітрапаліта епіскапа Юрыя Каранiстава, хаця пагаджаліся з трыманнем яго даўжэйшы час у сане *locum tenens* — месцаахоўніка мітрапаліцкага прастола. Такі стан утрымліваўся тры гады, да 1965 года, калі ўлады дазволілі выбраць на пасаду мітрапаліта епіскапа Сцяпана.

Царкоўнае жыццё не абмяжоўвалася толькі да тых ці іншых іерархаў, яно бурліла таксама ў нізавых звеннях. У пачатку 1970-х гадоў зафіксавана шмат канфліктаў у прыходах, так на Беласточчыне, як і ў Ніжняй Сілезіі, напрыклад, у Легніцы. І ў Сямятычах разгараўся ў той час царкоўны канфлікт.

Некалькі гадоў таму паказалася публікацыя гісторыка беластоцкага ІПН Кшыштафа Сыховіча «W kręgu Bizancjum», таксама датычная спраў Праваслаўнай царквы ў Беластоцкім ваяводстве ў пээнэраўскі перыяд. Крыптанімам «Bizancjum» былі названы дзеянні Службы бяспекі ў дачыненні да мясцовай Царквы. Паводле дакладчыка, ацэнкі аўтара публікацыі наконт стаўлення прадстаўнікоў царкоўнай грамадскасці да дзеянняў тагачасных улад занадта спрошчаны, агульна быццам безагаворачна спрыяльныя тагачасным уладам. Карціна не выглядала ў сапраўднасці так адназначна, тут таксама наглядаліся вытанчаныя ходы царкоўных суб'ектаў супраць тагачаснай афіцыйнай плыні. СБ старалася розным чынам перашкаджаць духоўным, напрыклад, калі яны заказвалі літургічныя кнігі з замежжа, тады супраць ім усчыналіся справы быццам за незаконную дзейнасць, за якую пагражала турма. Такім чынам супрацоўнікі СБ прымушалі праваслаўнае духавенства да некаторых дзеянняў, якія сёння разглядаюцца як супрацоўніцтва з тагачаснымі органамі дзяржаўнай бяспекі.

СБ сачыла за паасобнымі асобамі, збірала дэталёвыя інфармацыі не толькі пра іх дзейнасць, але і пра іх характар і зацікаўленні, здольнасці; гэтыя інфармацыі не заўсёды былі трапныя, часта кур'ёзныя. У 1953 годзе аднаго святара мелі перавесці ў іншы прыход. Гэта выклікала пратэст тых вернікаў, якім ён дагэтуль служыў. Яны сталі збіраць подпісы за астаўленне духоўнага ў прыходзе. Аказалася, што подпісы за гэтую справу збіралі актывісты ПАРП. Кожная партыйная ячэйка кіравала пратэст, падпісаны ўсімі сваімі членамі партыі. У выніку ўсе сакратары асноўных ячэек былі пакараны партыйнымі карамі. Аднаго з духоўных агент СБ хацеў завербаваць да супрацоўніцтва; той адказаў, што ніколі на такое не пойдзе, бо гэта пярэчыць ягоным рэлігійным прынцыпам. Агент запісаў, што той духоўны не прыгодны для супрацоўніцтва, бо з'яўляецца рэлігійным фанатыкам.

У 1960-я гады ўлады разгарнулі шэраг мерапрыемстваў, якія мелі канфліктаваць праваслаўных з каталікамі. Усе ўзаемапрыхільныя такія кантакты звярталі асаблівую ўвагу органаў бяспекі і яны заводзілі ініцыятывы ў напрамку іх разарвання. З пачаткам 1960-х гадоў у рапартах СБ паяўляюцца паведамленні, якія фракцыі існуюць у розных звеннях Праваслаўнай царквы. Адсочваліся таксама ўсялякія кантакты, асабліва з замежжам. Вось аднаму са святароў на Гайнаўшчыне захварэла дзіця і ён напісаў свайму знаёмаму святару ў Парыжы прыслаць лякарства, якога ў Польшчы не было. Але агент СБ, які прачытаў ліст, прыйшоў да высновы, што гэта не пра лякарства мова, толькі тая назва абазначае крыптанім нейкай нелегальнай задумы. Пайшоў у гайнаўскую аптэку і спытаў ці такі лек існуе. А паколькі такога ў Польшчы на той час не было, то фармацэўтка адказала, што няма. Ну і Службай бяспекі была ўзбуджана акцыя па выяўленні нейкага незаконнага дзеяння. Справа дайшла амаль да самых вярхоў, дзе, аднак, знайшоўся нехта, хто захацеў праверыць у парыжскага рэзідэнта СБ, ці там такі лек ёсць. Аказалася, што ён там паўсюдны... Сакрэтныя службы цікавіла таксама, ці беларускія дзеячы не маюць у шэрагах праваслаўнага духавенства сваёй агентуры...

Чым далей у лес, тым больш дрэў. Гэта можна сказаць і пра загляданне ў гісторыю Праваслаўнай царквы ў пээнэраўскую эпоху. Гэта не толькі візантыйскае багацце абраду і дэкору...

Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**


Публіка

ISSN 0546-1960 04